
Усход культуры➔3

# Ніва


Юрый Баена➔8

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 41 (2996) Год LVIII | Беласток, 13 кастрычніка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

— Гэта Сцяпан Копа, ураджэнец нашай вёскі, запрапанаваў стварыць у Малінніках вакальны калектыў. Ведаў ён нас і чуў, як жанчыны прыгожа спяваюць у час вяселляў і пры іншых нагодах. Раней, у час нашай моладасці, нашае сяло было вельмі расспяваным. Дзяўчаты ў святочныя, а адвячоркамі і ў будныя дні выходзілі на лавачкі спяваць. У час посту выконвалі адпаведныя для гэтага перыяду творы. Наогул спявалі песні на тэму складанага вясковага жыцця, працы ў полі, святкаванняў.



# «Малінкам» 15 гадоў

Такія менавіта творы састаўляюць рэпертуар нашага беларускага калектыву «Малінкі», які існуе ў Малінніках з 1998 года. Сёлета мы адсвяткавалі 15-годдзе нашай дзейнасці. З гэтай нагоды мы атрымалі, між іншым, грашовую ўзнагароду войта Арлянскай гміны Пётра Сэльвесюка, — сказала Вера Нічыпарук, кіраўнік маліннiцкага калектыву. — Сцяпан Копа вучыў нас правільнаму спяванню. Быў ён нашым першым музычным інструктарам. Назву «Малінкі» мы ўзялі ад назвы вёскі. Маці хроснай нашага калектыву была Аліцыя Собунь, тадышняя дырэктарка Гмінага асяродка культуры ў Орлі. Яна прыязджала нават на нашыя рэпетыцыі і дапамагала выступаць на сцэне.

— Я рады, што ў нашай гміне дзейнічае калектыў «Малінкі». Выконвае ён аўтэнтычныя неапрацаваныя песні, якія ў мінулым спяваліся ў нас. Мы дапамагаем у яго дзейнасці, даем транспарт і аказваем падтрымку ў іншых патрэбах, — заявіў войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк.

Першым кіраўніком калектыву ў 1998 годзе стала Надзея Сахарчук, у якой была фенаменальная памяць. Патрапіла яна заспяваць па памяці мноства песень, якія ляглі ў аснову рэпертуару гурту. Многа твораў запісаў ад яе беларускі фальклырыст і музыка Сцяпан Копа, былы галоўны інструктар па справах фальклору пагранічча Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку (зараз ён на пенсіі). У мінулым ён займаўся многімі беларускімі калектывамі Беласточчыны, запісаў мноства фальклорных песень, частка якіх выдадзена ўжо друкам. Песні запісаныя Сцяпанам Копам ад Надзеі Сахарчук у Малінніках склалі кнігу «Песні Бельскай зямлі. Гміна Орля».

— У першым саставе калектыву апрача Надзеі Сахарчук і мяне выступалі Анна Сасна, Ніна Міранчук, Вера Іванчук, Вера Кулік, Анна Кулік, Вольга Іванюк і Мікола Васілюк, а падыгрывалі нам музыканты з Сухавольцаў і Міклашоў. Я стала кіраўніком калектыву ў 2000 годзе, — заявіла Вера Нічыпарук.

Жыве яна ў хутарнай забудове, але ў саміх Малінніках разам з мужам Пётрам збудавалі з двух кантэйнераў домік, абсталяваны на музейчык з даўнімі вырабамі. Можна там таксама ўбачыць шматлікія ўзнагароды, якія «Малінкі» атрымалі за выступы на сцэне. Спадарыня Вера паказала таксама ганаровыя граматы і падзячныя лісты, якія калектыў і яна, як салістка, атрымалі ў час конкурсаў і аглядаў.

— Мы лічым сябе беларусамі. Пастаянна прымаем удзел у фестывалі «Беларуская песня». Заўсёды кваліфікавалі нас на цэнтральныя элімінацыі гэтага фестывалю, а наш калектыў наогул займаў прызавыя месцы. Я спяваю сола і таксама займала першыя месцы. Выступаем на гмінных мерапрыемствах, спяваем на шматлікіх беларускіх імпрэзах. Часта прэзентуем аўтэнтычны фальклор на мерапрыемствах арганізаваных Студзіводскім музеем. Калі нас запрашаюць, спяваем таксама на польскіх і ўкраінскіх мерапрыемствах. Адзін раз выступілі на аглядзе ўкраінскіх песень у Бельску-Падляшскім, але гэтае мерапрыемства нам не спадабалася і больш там не выступаем, — гаварыла аб пройдзеным кіраўнік калектыву, спадарыня Вера.

Апошнім часам «Малінкі» часта выступалі на Ваяводскіх дажынках Падляшскага ваяводства, дзе прэзентавалі жніўныя абрады. З прыгожа прыбранай «перапяліцай» прымалі ўдзел у конкурсе на найпрыгажэйшы дажынкавы вянок і нават у ім перамаглі.

Калектыў «Малінкі» выступаў з абрадавымі сцэнкамі «Перапяліца», «Вяселле», «Хрысціны», «Адведкі», «Вячоркі» «Квашанне капусты». Пастаянна прэзентуецца ў час абрадавых аглядаў і ў калядным аглядзе «Гвязда і каляда», арганізаваных БГКТ. «Малінкі» ўзнагароджваліся на Аглядзе вясковых абрадавых тэатраў Падляшскага ваяводства ў Ломжы, падчас Сейміка вясковых тэатральных калектываў у Сточку-Лукоўскім і Агульнапольскага сейміка вясковых тэатраў у Тарнагродзе.

— У Тарнагродзе мы атрымалі ўзнагароду міністра культуры і нацыянальнай спадчыны. Вельмі вялікае ўражанне зрабіла на нас паездка ў Літву, а канкрэтна ў Вільню, дзе прымалі нас вельмі сардэчна і абдарылі шматлікімі сувенірамі. Цікава нам было выступіць з нашымі абрадамі ў Польскім тэатры ў Варшаве і іншых месцах сталіцы. А сола я выступіла ў Казімежы-Дольным на Агульнапольскім фестывалі капэл і народных спевакоў дзе заняла там трэцяе месца, — сказала Вера Нічыпарук.

Перад юбілейнымі святкаваннямі Гмінная ўправа ў Орлі выпусціла кампакт-дыск з семнаццаццю фальклорнымі творамі ў выкананні «Малінак», дзвюма сольнымі песнямі Веры Нічыпарук і з адным творам у выкананні Анны Кулік. Зараз у калектыве, апрача згаданых асоб, спяваюць Валянціна Троц, Пётр Нічыпарук, Іаланта Іванчук і Альжбета Іванчук. На сёлетнім беларускім фэсце ў Орлі ўдала запрэзентаваліся яны з неапрацаванымі фальклорнымі песнямі.

— Нават у суседніх сёлах тыя ж самыя песні выконваюцца крыху інакш. Мы стараемся трымацца маліннiцкага напеву, — удакладніла спадарыня Вера. — Мы любім спяваць і выступаць з абрадавымі сцэнкамі. Калі заўважаюць нашую ангажаванасць на фестывалях і аглядах, гэта нас мабілізуе да рэпетыцый і чарговых выступленняў. Нашым спевам цікавіліся студэнты з Англіі і Літвы. Калі бачым, што іншым патрэбнае тое, што мы робім, гэта нас радуе і заахвочвае да далейшай працы. Спачатку мы спявалі ў старых касцюмах «Арлян» з Орлі, а пазней ад Галоўнага праўлення БГКТ атрымалі новыя, пашытыя ў Беларусі касцюмы, у якіх цяпер выступаем. Спяваюць у нас маладыя дзяўчаты. Але маладыя шукаюць працу, выязджаюць і невядома, як будзе з імі ў будучыні.

Анна Кулік, ураджэнка Маліннік, спявае з калектывам больш дзесяці гадоў. Зараз працуе ў Варшаве, там жыве, але на выхадныя прыязджае ў родную вёску, прыходзіць на рэпетыцыі і выязджае з «Малінкамі» на канцэрты.

— Палічыўшы дакладна, то я выступаю з «Малінкамі» ажно адзінаццаць з паловай года. Лічу, што варта гэтае рабіць, бо мне падабаюцца нашыя даўнія песні і трэба іх прэзентаваць шырэйшай публіцы. Выезды з калектывам, гэта таксама адпачынак ад штодзённых і цікава праведзены час, — сказала Анна Кулік.

— Нам усё цікавае, і старыя песні, і абрады нашыя і таму выступаем у калектыве, — дабаўляюць Альжбета і Іаланта Іванчук.

Малады састаў гурту папаўняе яшчэ Анна Нічыпарук, якой асабліва падабаюцца народныя абрады. Альжбета Фіёнік, інструктар па тэатральнай дзейнасці Бельскага дома культуры сказала мне раней, што аўтэнтычнасць і займальнасць абрадавых сцэнак у выкананні «Малінак» абапіраецца ў галоўным на тэатральныя здольнасці Веры Нічыпарук, якая вельмі ўмела выконвае абавязкі рэжысёра, сцэнарыста і кіраўніка тэатральнай дзейнасці калектыву.

— Жанчыны прыходзілі на рэпетыцыі на наш панадворак, то і я стаў дапамагаць ім спяваць. Палюбіў гэта і выступаю з калектывам ужо прыблізна дзесяць гадоў. Хаця дома трэба яшчэ дагледзець за каровамі, свіньмі ці куркамі, то неяк спраўляемся з выступамі і догляданнем дабытку, — сказаў Пётр Нічыпарук (1933 года нараджэння), муж спадарыні Веры. — Мы ў моладасці спявалі і цяпер вяртаемся да песень з юнацтва, успамінаючы іх мелодыі і словы.

— Раней я выступала з «Васілёчкамі», але пасля стала хварэць. Калі цёця Вера запрасіла ў «Малінкі», я згадзілася і ўжо звыш 5 гадоў супольна выступаем. Свае песні я чула ў моладасці ад мамы, якая родам з Маліннік. Цяпер я сама працягваю нашыя традыцыі, — заявіла Валянціна Троц, якая жыве ў Бельску-Падляшскім і прыязджае на рэпетыцыі ў Малінніках.

— Можна сказаць, што зараз састаў «Малінак» сямейны, бо ўсе асобы, якія з намі выступаюць, гэта мае сваякі або сваякі майго мужа. Мы прапагандуем беларускую культуру і нашую спадчыну, каб яна не знікла сярод нашага насельніцтва, каб надалей была жывой. Радуе нас, калі мы нешта робім і гэта ідзе ў свет. Калі маладыя схочуць выступаць з намі, будзем старацца надалей падтрымліваць традыцыі і прэзентаваць наш фальклор, — сказала на развітанне Вера Нічыпарук.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Алімпійскі fuckел

Прэзідэнт усяе Расіі Уладзімір Пуцін днямі ўласнаручна падпаліў факелам алімпійскую чашу, ад якой павінен праз нейкі час разгарэцца агонь сочынскіх зімовых гульняў. Белая алімпіяда ў Сочы, дзе вельмі цёплыя нават цёмныя ночы, ужо пабіла ўсе рэкорды яшчэ задоўга да яе пачатку. Па-першае, сваімі агромністымі выдаткамі на будаўніцтва спартовых аб'ектаў. Па-другое тым, што для іх узвядзення спатрэбілася зруйнаваць ледзь не палову мірнага горада над морам. Пра тое, якія схемы, камбінацыі і „адкаты" пры тым былі выкарыстаны, ходзяць легенды, ды такія, што ніякаму старажытнагрэцкаму Алімпу і не сніліся.

Старт алімпійскай эстафеты на Краснай Плошчы не абышоўся без казусу — газпромаўскі факел нечакана згас ужо пасля першай яго перадачы — кепская прыкмета ў дарогу паводле рускіх народных павер'яў. Але ахоўнікі прэзідэнта і парадку не разгубіліся, адзін з квадратнатварых дзецюкоў высек іскру проста са сваёй запальнічкі і полымя ўспыхнула з новай сілай. Праўда, цяпер злыя языкі вастрасловяць — агонь, маўляў, ужо зусім не алімпійскі, дык можа і „царь ненастоящий"!?

Спорт у Маскве яшчэ з часу СССР быў надзвычай палітызаваны. Ну а цяпер, як ніколі. Нездарма ў Дзяржаўную Думу з чырвоных стадыённых дарожак так актыўна перабягаюць на чырвоныя дываны парламенцкіх калідораў былыя чэмпіёны. Канькабежка Святлана Журава, тэнісіст Марат Сафін, барэц Аляксандр Карэлін, баксёр Мікалай Валуеў — аж вочы стракацяць. Усе яны ўсёй душой адданыя галоўнаму алімпійцу краіны. А славутая гімнастка Аліна Кабаева, як сцвярджаюць злыя медыі, адданая яму яшчэ больш.

Іншы баксёр Аляксандар Паветкін, член Патрыяршага савета па культуры мусіў узняць рускі дух на нябачную дагэтуль вышыню — для гэтага ў маскоўскім комплексе „Алімпійскі" ён збіраўся пабіць сусветнага чэмпіёна з Украіны Уладзіміра Клічко. Сабраліся тут усе. Некалі таленавіты рэжысёр, а цяпер высокі саноўнік, Нікіта Міхалкоў амаль ролю секунданта выконваў. Знакаміты спявак Іосіф Кабзон, самы багаты дэпутат той жа Думы, выканаў гімн, пад які ў галаве, як бы яны там не перастаўлялі і мянялі словы, плыве адно — „Союз нерушимый республик свободных сплотила навеки великая Русь". А прэтэндэнт на тытульны пас выйшаў на рынг пад песню ў гонар паганскага бога Сварога. Цяжка зразумець чаму член праваслаўнага Патрыяршага савета выйшаў на публіку ўвесь у татуіроўках старажытных рунаў. Язычніцкія наколкі не памаглі Паветкіну. Але трэба аддаць належнае „Рускаму віцязю" — ён пратрымаўся да канца паядынку. А пасля высветлілася, што баксёр не так даўно развітаўся з традыцыйным праваслаўем і вярнуўся да народных вытокаў — язычніцкіх. Вось гэтая загадкавая — ні то славянская, ні то фіна-вугорская душа — дзе ж нам зразумець яе!?

Вось яшчэ адзін прыклад. Вядомы расійскі мецэнат праваслаўя Канстанцін Суслаў, ён жа другая асоба ва ўрадзе Калінінградскай вобласці, ён жа ўладальнік завода па вытворчасці традыцыйных алкагольных напояў будзе зараз выпускаць гарэлку пад назвай „**Stalinskaya**". Логіка дабрачынца і асобы набліжанай да патрыярха, некалі мітрапаліта Калінінградскага і Смаленскага напэўна такая — Сталін жа таксама некалі вучыўся ў праваслаўнай семінарыі, значыць і гарэлка з такім брэндам можа быць. А тое, што вусаты „бацька народаў" фізічна і маральна знішчыў мільёны нявінных людзей, відаць, не ў лік. Гібель мільёнаў паводле яшчэ адной традыцыі — у іх заўсёды толькі статыстыка. А можа гэта такое пасланне ненавіснаму Захаду, бо гарэлка найперш пойдзе на экспарт!?

Зараз у некаторых кутках планеты загаварылі пра магчымы байкот алімпійскіх гульняў. Але ўжо позна. Пуцінскай Расіі не страшны ніякі байкот. Ім было важна атрымаць права на правядзенне алімпіяды. А далей хоць алімпійскі агонь, хоць сусветны патоп. Тым больш, што Расія і так — даўно чэмпіён свету, хай сабе і ў неалімпійскіх відах — скачках назад, стральбе па журналістах, барацьбе пад дываном, падводным атручванні акіяна... Масква ўжо „уставіла" МАКу свой факел. У Маскве перакананыя, што ўхапілі алімпійскіх багоў за бараду.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Павышэнне нулёў

Хуткасць, з якой прыбывала ў час гаркаўшчыны ці гамулкаўшчыны так званых ударнікаў працы, была прапарцыйная да драбнеючай з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе нацыянальнай эканомікі. Можна сказаць, што тэмп быў... страшным. Вядома, у намеры ўлад адчуваць сябе запалоханымі маглі выключна скандалісты, гультаі і ўсе тыя, хто прытрымліваецца прынцыпу, што ў ПНР, ці ляжыш, ці стаіш, належыцца табе па меншай меры мінімум заработнай платы. Нагадаю, што перш было гэта 500 злотых, пасля тысяча, дзве тысячы, і якраз перад надыходам скрытнаеда нулёў — Бальцаровіча — 2 мільёны. Хоць бальцаровічаўскія рэформы спынілі інфляцыйнае павышэнне нулёў на банкавых купюрах, але разбуйнелым на ідэалагічным угнаенні сацыялізму чалавечым нулям ужо не далі рады. Нават на аснове стэрылізаванай з паніб-рацтва дэмакратыі яны маюцца даволі добра. У Сейме. У дзяржаўных і мясцовых установах. Але гэта не пра іх у гэтым тэксце гаворка. Тым больш, што ў любой палітычнай сістэме, у любым грамадстве, акрамя нулёў, ёсць таксама асобныя каштоўныя адзінкі. Справа ў тым, каб на іх сумленнай працы і са звычайнай сумленнасці не жыравала зашмат нулёў.

У гэтым месцы трэба адзначыць, што праца ў тыя далёкія часы была грамадзянскай прывілеяй (чытай: абавязкам), гарантаванай Канстытуцыяй. Таму ўлады крыміналізавалі ўхіляючыхся ад працы, у адпаведнасці з прапагандай, праслаўлялі рабочых, сялян і гэтак званай працоўнай інтэлігенцыі незлічонымі ардэнамі і медалямі за... працу. Ардэнаносцы таксама маглі разлічваць на ўсхваленне СМІ ў выглядзе доўгіх артыкулаў, рэпартажаў і інтэрв'ю ў прэсе, на радыё і тэлебачанні. Так па ўсёй краіне, як і ў рэгіёне. І гэта было немаленькае вылучэнне. Калі хто-небудзь памятае з тых гадоў зграбных гультаёў, супрацьстаўляючы ім гераічную армію ўдарнікаў. «Сінія птушкі» ці іншыя паразіты, закранутыя антысацыялістычнай лянотай, павінны былі выклікаць у грамадстве найбольшую агіду. А ўдарнікі — энтузіязм і ўсеагульнае захапленне. І так літаральна ўлады масцілі грудзі дзелыя дамы, пыльныя паліцы крам, сярмяжную моду вуліцы, паўсюдную шэрапрысутнасць пасрэднасці, ведае, што я маю на ўвазе. Вылучаны пахвальным рэпартажам Кавальскі ўзвышаўся над шэрым натоўпам іншых Кавальскіх, як райскі птах. І, трэба дакладна сказаць, што ён даставаў ад гэтага рэальную выгаду. Чарга да мясніка першым прапускала яго да прылаўка, і яшчэ, вядома, не стаяў ён там нават хвілінкі, бо ўжо прадаўшчыца Геня ўціскала яму ў далонь пачачку з лепшай вяндлінкай, а кіраўнічка Цалінка шаптала яму на вуха пра бліжэйшую пастаўку адбіўных. Дырэктар завода першы кланяўся яму, ляпаў па плячы, але і прапускаў праз пальцы шматлікія спазненні на працы. Бо ж інтэрв'ю адымалі шмат часу!

Дактрына, згодна з якой сацыялізм вышэйшая сістэмная форма чым капіталізм — у якім паўсюдна існуе беспрацоўе, сацыяльная няроўнасць і эксплуатацыя чалавека чалавекам — аказалася б пустой, калі б камусьці не хапіла працы. Такім чынам за працу ніхто не турбаваўся. Ужо дзяржава клапацілася пра гэта. Але каб не было лёгка, улады прыдумалі канкурэнцыю працы. Найлепшыя атрымлівалі медалі і званні ўдарнікаў. Толькі што лепшым мог быць толькі той працаўнік, які адпавядаў ідэалагічнаму штампу. Найчасцей ён быў вызначаны на партыйным шаблоне. Так што неабавязкова мусіў быць лепшым работнікам. Як гэта пераводзілася на якасць працы? Вядома.

Але чаму я ўспамінаю тыя мінулыя часы? Пра той час ідэалагічнай крывадушнасці, цывілізацыйнай сярмяжнасці, некантралюемай улады, якая выраджалася з грамадства і выроджвалася тым больш, чым даўжэй кіравала розумамі людзей? А таму, што ўсё паўтараецца. У Беларусі. Вось беларускі прэзідэнт на цэнтральных дажынках у горадзе Жлобіне асабіста ўзнагародзіў лепшых у краіне камбайнераў, кіраўнікоў гаспадарак і кіраўнікоў раёнаў і рэгіёнаў. Медалямі і грашовымі прэміямі. Адначасова даручыў прызначыць прэміі ўсім ударнікам: трактарыстам, вадзіцелям і механікам. Мабыць, не забыўся пра даярак, пастухоў і конюхаў. Ну, усе ж заслугоўваюць узнагароды. У рэшце рэшт, усе ж, вядома, працуюць. Ой, нарасце нулёў на беларускіх купюрах! Ну, пабольшае іх!

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Кніга пра Сакрата Яновіча

«Pisarz transgraniczny. Studia o Sokracie Janowiczu» — пад такой працоўнай назвай планууецца праца над кнігай, прысвечанай Сакрату Яновічу. Праект, ініцыяваны сумесна Групай прамоцыі горада і рэгіёна, Інстытутам паланістыкі і Кафедрай беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку, рэалізуецца пад патранажам Фонду «Віла Сакрата». Кніга мае складацца з тэкстаў, дасланых асобамі, якія супрацоўнічалі з вялікім пісьменнікам з Крынак і (або) пісалі пра яго. Арганізатары ў запрашэнні да супрацоўніцтва над гэтай адмысловай біяграфіяй прыгадваюць: «17 лютага 2013 г. памёр у Крынках Сакрат Яновіч, аўтар дзвюх моў, беларускай і польскай, постаць значная для культуры падляшскага рэгіёна і польска-беларускіх адносін у апошнім паўстагоддзі. Яго біяграфія ўжо закрыта, скамплектаваныя пісьменніцкія здабыткі і выконваныя ім грамадскія ролі патрабуюць шматграннай і шматперспектыўнай рэфлексіі. Як «беларускі пісьменнік у пасляваеннай Польшчы» Яновіч служыў свайго роду драгаманам (пасярэднікам і перакладчыкам) паміж Беларуссю і польскай культурай і далей — Захадам. Ён стаў адным з заснавальнікаў беларускага ідэнтыфікацыйнага дыскурсу, так пры ПНР, як і пасля 1989 года, ды і пасля распаду Савецкага Саюза. Ён выявіў надзеі, звязаныя са стварэннем беларускай дзяржавы, а таксама расчараванне дзяржаўнай палітыкай у адносінах да роднай культуры. Ён быў адной з самых самабытных індывідуальнасцей літаратуры падляшскага рэгіёна, дзякуючы змешчаным тут сваім «прадстаўляным светам», поўнай запалу гістарычнай эсэістыцы і публіцыстыцы, настолькі ж каларытнай, як і супярэчлівай індывідуальнасцю».

Падкрэсліваюць: «У апошнія гады, калі пасля «тапаграфічнага звароту» ў гуманітарных навуках сувязь літаратуры і культуры з месцам і геаграфіяй стала настолькі важнай, голас Яновіча часта можна было пачуць. На яго спасылаліся ў мясцовых, нацыянальных і міжнародных літаратурных часопісах, альманахах «адкрытага рэгіяналізму», ініцыятывах, вяртаючых еўрапейскай спадчыне ідэю Вялікага Княства Літоўскага, на навуковых канферэнцыях, прысвечаных пагранічцам. Выкарыстоўваючы гэты імпульс, варта зрабіць чытэльнай яго пазіцыю ў калектыўнай памяці беларусаў і палякаў, памяці, у якой хапае раздражненняў і складанасцей, памяці, адзначанай неўрозамі і траўмамі. Гэтай мэце будзе служыць публікацыя, да суствараня якой запрашаем даследчыкаў літаратуры і культуры, пісьменнікаў, журналістаў і ўсіх тых, хто жадае прыняць удзел у нашай дэбаце сканцэнтраванай вакол біяграфічных звілін і творчасці Сакрата Яновіча. Мы не збіраемся паставіць яму помнік. Ён жа сам, «Сакрат з Крынак», не пазбягаў падрахункаў і часам сам разварушваў асінае гняздо. Не думаем пра гэта, каб закрыць яго ў формулу рэгіянальнага пісьменніка. Памятаем, што Яновіч не любіў абмяжоўвацца да прыватнасці, нават набліжэйшай сэрцу, што ён хацеў быць пісьменнікам універсальным і міжнародным, а гэта, аднак, патрабавала — на яго думку — укаранення ў канкрэтным рэгіёне і месцы».

Кніга будзе падзелена на тры часткі: «Пісьменнік-установа», «Творчасць і яе рэцэпцыя», «Галасы і сведчанні пра Яновіча». Апошняя частка мае мець крыху свабаднейшы, мемуарны характар. Тэкстаў аб'ёмам 10-20 стандартных старонак, на польскай ці беларускай мовах, арганізатары чакаюць да 15 студзеня 2014 года. Просяць адпраўляць іх па адрасе Гражыны Харытанюк: gcharytoniuk@wp.pl або Данута Завадзкай: danzaw123@gmail.com.

Заахвочваем чытачоў «Нівы» да ўдзелу ў стварэнні кнігі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Усход культуры — беларуская сцэна

Немагчыма было прыняць удзел ва ўсіх падзеях беластоцкага фестывалю „Усход культуры — Іншае вымярэнне". Ідэя пяцідзённага мерапрыемства, якое скончылася 29 верасня, складалася з прэзентацыі шырокай культуры (мастацтва, музыка, тэатр, мода і г.д.) у маштабе Беластока і шырэй Падляшша пры ўдзеле творцаў з шасці краін-удзельніц Усходняга партнёрства, асабліва з Беларусі — найбліжэйшай суседкі рэгіёна. Фестываль быў таксама свайго роду прыкладам супрацоўніцтва трох гарадоў Усходняй Польшчы — Беластока, Любліна і Жэшава, дзе фэстывальныя імпрэзы „Усходу культуры" таксама мелі месца, толькі што былі арганізаваны ў адпаведнасці з іншымі задумамі.


Алесь Пушкін

Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Асноўныя арганізатары — у тым ліку Беластоцкі культурны цэнтр — паставілі ў беластоцкім выданні на тэатр. Паказаны былі дзесяць тэатральных пастановак. Адной з першых падзей (на больш за восемдзесят), на якую мы трапілі, была польская прапрэм'ера п'есы беларускага драматурга Паўла Пражко „Трусы" ў рэжысуры Конрада Дулькоўскага ў тэатры „Trzyrzecze". Гэта была першая спроба ўвесці ўжо ўхваленага ў Еўропе аўтара ў польскі тэатр у поўным сцэнічным маштабе (дасюль чыталіся яго п'есы ). Рэжысёр перад дапрэм'ерным выступам прызнаўся ў размове з „Нівай" (месяц таму мы апублікавалі інтэрв'ю з ім, а ў чэрвені шырэй пісалі пра Паўла Пражко):

— Гэты тэкст — аб калектыўнай віне, аб нашай агрэсіі. Казла адпушчэння знаходзім заўсёды ў людзях, якія прадстаўляюць нашы грахі, тое, што прычыняе нам боль. Яны — такія згрызоты сумлення, і такая наша галоўная гераіня. Гэтую драму можна таксама адчытаць у дачыненні да ўсіх відаў меншасцей. Я першапачаткова скептычна ставіўся да гэтага тэксту. І толькі калі мы пачалі ў яго апускацца ўсё глыбей і глыбей, я пачаў вывучаць яго далейшыя пласты. Небяспека заключаецца ў прачытанні гэтай п'есы на базавым бытавым узроўні, праз прызму хаця б прымененых у ёй мацюкоў.

Рафал Гавэл, дырэктар тэатра „Trzyrzecze", папярэджваў гледачоў перад спектаклем:

— Драма „Трусы", пастаўленая на нашай сцэне, прызначана толькі для дарослых гледачоў. Спектакль моцны і сакавіты ў моўным і візуальным пластах, гэты сок пырскае па баках, і вы маглі б пайсці з тэатра трохі запэцканымі.

Алег Жугжда, рэжысёр Гродзенскага лялечнага тэатра ў рамках фестывалю прадставіў у Беластоцкім лялечным тэатры спектакль „Jaśniepanienka", паводле аповесці „Вій" Мікалая Гогаля. Перад адным з некалькіх фестывальных паказаў сказаў:

— Наш спектакль пра тое, як мы вельмі спяшаемся, паколькі ў нас няма часу, каб паглядзець у свае душы і пераадолець свой страх, што сядзіць у нас вельмі глыбока, а пераадольваючы яго можам стаць зусім іншымі. Размова таксама ідзе аб злачынстве і пакаранні.

У кавярні „Фама" пры нагодзе вядомай амаль усяму насельніцтву рэгіёна пастаноўкі „Ой, даўно, даўно...", падрыхтаванай згуртаваннем АБ-БА, настаўніца беларускай мовы Пачатковай школы № 4, а заадно рэжысёрка прадстаўлення, віцэ-старшыня згуртавання АБ-БА Аліна Ваўранюк (на здымку) з рук падляшскага віцэ-ваяводы Войцеха Дзяжгоўскага за „дзейнасць і працу па развіццю культуры і самабытнасці нацыянальных меншасцей, у прыватнасці беларускай мовы і культуры" атрымала Сярэбраны крыж заслугі, узнагароду прэзідэнта РП па заяве Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.

Без сумневу, адной з асноўных падзей, непасрэдна ўпісваючыхся ў ідэю „Усходу культуры" была прэзентацыя прац трох маладых мастакоў, узнагароджаных Польскім інстытутам у Кіеве прэміяй імя Казіміра Малевіча, паралельна з трыма сёлетнімі рэзідэнтамі галерэі „Арсенал". Рэзідэнтам з Беларусі (побач мастачак з Украіны і Грузіі) быў перформер, аўтар арт-інсталяцый і куратар звязаны з адзінай незалежнай галерэяй сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску — галерэяй „Ў" — Сяргей Шабохін. Моніка Шэўчык, кіраўнік „Арсенала":

— Самае важнае падчас такіх рэзідэнцый — гэта магчымасць супрацоўніцтва і абмену вопытам мастакоў і стварэнне дыялогу паміж Польшчай, Беларуссю, Украінай і Грузіяй на грамадскім, палітычным і культурным узроўні, дзякуючы дзеянням з парганічча мастацтва, культуры і абмену ідэямі і вопытам.

У сваёй месячнай, вераснёвай рэзідэнцыі Сяргей Шабохін падрыхтаваў дакументацыю і адаптаваў для „Арсенала" шкляныя вітрыны, якія ў 2010 годзе ў рамках аднаго з фестываляў мастацтва стаялі ў цэнтры Кракава, у гістарычных месцах, пры помніках, якім гэтыя працы давалі іншы кантэкст.

— Гэтыя працы спецыяльна рэканструюю для беластоцкай галерэі. Праект называецца „Store", па-англійску значыць „склад". Гэта аб суадносінах гістарычнай памяці ў гарадской прасторы. Я запоўніў вітрыны адбіткамі, тэкстамі, картамі, праспектамі і іншымі прадметамі. Вітрыны „даклейваў" да помнікаў, якія пачыналі мець іншае значэнне, і якія не мелі ніякага дачынення да прасторы, у якой стаялі. Вітрыны былі так зроблены, быццам бы іх зрабілі самі кракавяне. Мясцовыя жыхары неадкладна адрэагавалі. Яны прыносілі кветкі, ставілі свечкі. Кожны бачыў у гэтых вітрынах тое, што хацеў.

Пры нагодзе спаслаўся на сітуацыю ў сферы выяўленчага мастацтва ў беларускай сталіцы:

— Цяпер у Мінску ў грамадстве наступае адраджэнне цікавасці да эксперыментальнага мастацтва. Усё больш і больш маладых людзей цікавіцца сучасным мастацтвам, прытым не як яго назіральнікі, але актыўныя ўдзельнікі. Балюча ўдарыла па нас, аднак, тое, што сёлета ні адна няўрадавая арганізацыя, якая займаецца мастацтвам, не атрымала еўрасаюзнага гранту, а толькі дзяржаўныя арганізацыі.

Вялікую цікавасць выклікаў падчас „Усходу культуры" мастак, перформер і актывіст апазіцыі Алесь Пушкін, які праславіўся ў Беларусі шматлікімі акцыямі, у тым ліку ў 1999 годзе ўвязненнем тачкі гною пад палац Аляксандра Лукашэнкі, за што быў прысуджаны да турэмнага зняволення. Стаў ён героем скандалу, калі ў 2000 годзе напісаў для царквы ў Бабры (у гэтай мясцовасці, распаложанай у Крупскім раёне Мінскай вобласці, ён жыве) фрэску Страшнага суда з выявамі Аляксандра Лукашэнкі і мітрапаліта Філарэта, стаяўшых у атачэнні чарцей і грэшнікаў. У фае Падляшскай оперы ў барочным строі маляваў ён жаночыя партрэты, а затым сыграў эпізадычную ролю ў барочнай оперы „Pimpinone". Ён намаляваў „ужывую" гераіню гэтай опернай п'есы. Як падкрэсліла Ілона Карпюк, каардынатарка мастацкіх праектаў Падляшскай оперы і філармоніі, быў гэта першы візіт мастацкага характару Алеся Пушкіна ў Беласток. Мастак успамінаў нам:

— Ілона Карпюк даведалася, што я аднаўляў барочныя фрэскі ў Магілёве, а Магілёў і Віцебск гэта гарады ў Беларусі, дзе канчалася барока. Яна прапанавала, каб я з'явіўся ў такім барочным адзенні ў сутыкненні з сучасным будынкам, дзе прытым ездзяць сучасныя цацкі (паралельныя з жывапісам Алеся Пушкіна ў вестыбюлі Оперы — у рамках юбілею ўзнікнення ПОіФ — адбывалася прэзентацыя марсахода, распрацаванага студэнтамі Беластоцкай палітэхнікі — М. Х.).

Пушкін планаваў, з гонарам дэманструючы завешаны на грудзях герб Бабра:

— У наступным годзе спаўняецца 500 гадоў з дня надання Бабру Магдэбургскага права. Думаючы аб нейкай ініцыятыве з гэтай нагоды, я прапанаваў праект рэканструкцыі цэнтра мястэчка. Прычапіў яго нават у нашай гарадской управе. Мне сказалі, што няма каму гэта зрабіць. Спачатку яны сказалі, каб я ім не мяшаў працаваць, але потым, калі ўбачылі, што я настойлівы, пачалі запэўніваць, што падумаюць.

Жартаўліва дадаў:

— Калі нічога не зробяць, то праз наша мястэчка праязджаюць важныя цягнікі, напрыклад Масква — Калінінград; а раптам прыйдзе мне ў галаву выкарыстаць некаторыя варожыя тэхнікі, з выкарыстаннем гэтага чыгуначнага злучэння.

Аб іншых падзеях фестывалю „Усход культуры — Іншае вымярэнне" з беларускімі акцэнтамі — у наступным нумары.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ


Фота www.racyja.com

## З думкай пра турыстаў

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета для актыўнага і культурнага адпачынку добра служаць аб'екты ў Старым Двары каля Семяноўскага вадасховішча. Тут ёсць спортпляцоўкі, прыбярэжныя кладкі побач пляжа, цікавы па архітэктуры амфітэатр на беразе возера.

У Нараўцы пабудавалі вялікую спартыўную пляцоўку „Орлік", байдарачную прыстань (ёсць тут байдаркі і веласіпеды для плавання па вадзе) ды амфітэатр з дашкам над лавачкамі для гледачоў.

У Семяноўцы ўжо некалькі гадоў добра працуе Асяродак экалагічнай адукацыі, у якім ёсць, між іншым, спортпляцоўка, начлежныя месцы і кухня.

На беразе ракі ў Нараўцы пабудуюць тры домікі на 48 начлежных месц для турыстаў. Начлежнікаў будуць прымаць праз увесь год. Зімою можна будзе пазычаць лыжы і катацца па прадрыхтаваных для гэтага трасах.

З вышак ва ўрочышчах Марушка і Круглік можна рабіць фотаздымкі прыгожых ваколіц у любую пару года — тут і возера, і лес, і лугі. Тут можна раскласці касцёр пад дашкам. Спецыяльныя месцы для кастроў ёсць у Новай Луцэ, Бярнадскім Мосце і ў ваколіцы Бяндзюгі.

Зараз у Нараўчанскай гміне некаторыя сяляне заняліся агратурызмам. Яны наймаюць кватэры айчынным і замежным турыстам. Такіх кватэранаймальнікаў ёсць 40. Усе кватэры маюць свае назвы, напрыклад, „Дом у Пасеках", „У Рубчэўскіх", „Над Баброўкай", „Лясное ранча", „Пры дуброве", „Пад вязам", „Буквіца", „Каліна", „Голас натуры", „Сасновы пералесак", „Рай пад яблыняй", „Баярскі гасцінец", „Бора-здруй" і „Зубр". Яны па меры сваіх магчымасцей арганізуюць сваім госцям культурна-забаўляльныя мерапрыемствы ды актыўны і модны адпачынак.

Зімою папулярнасцю карыстаюцца кулігі, а ўлетку — катанне на веласіпедах і плаванне на байдарках па рацэ Нараўцы. Гмінны асяродак культуры і святліцы на дошках аб'яў інфармуюць пра культурныя і спартыўныя мерапрыемствы, якія якраз падчас пабыўкі турыстаў адбываюцца ў Нараўчанскай ды суседніх гмінах і ў Гайнаўскім павеце. Уласнікі прыватных кватэр летам прапануюць летнікам схадзіць у бліжэйшы лес па ягады або з вудай на ставы, а восенню па грыбы.

Калі ідзе пра харчаванне, дык кватэранаймальнікі заахвочваюць пасмакаваць патравы рэгіянальнай кухні. Некаторыя вясковыя гаспадыні прапануюць пасправабаваць аржанога хлеба, дранікаў, малака „проста ад каровы", масла, мёду, настоек на травах зуброўкі ці буквіцы ды свойскіх мясных вырабаў. У вясковых вышывальніц можна купіць дэкаратыўныя ручнікі на ікону або на сцяну, абрусы, паясы, макаткі ды вышываныя кашулі. Пчаляры маюць на продаж не толькі ліпавы, спадзевы ці грачаны мёд са сваёй пасекі, але і тоўстыя свечкі з пахучага мёдам воску.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

Вёска Журобічы расталожана каля кіламетра ад шашы з Бельска-Падляшскага ў Сямятычы. Даведнік Дзядковіцкай гміны інфармуе, што мясцовасць упершыню згадваецца ў 1528 годзе і згадка тая была запісана кірыліцай.


Царква ў Журобічах

# Колішняя і сучасная даўніна

Калісь была гэта вялікая вёска ў складзе Мельніцкай зямлі, у канцы XVI стагоддзя налічвала яна каля двухсот сем'яў, якія гаспадарылі на шасцісот гектарах. У той час у Журобічах была ўжо царква. Слоўнік Каралеўства Польскага з канца XIX стагоддзя: „Żurobice, wieś i obręb leśny, pow. bielski, gub. grodzieńskiej, gm. Siemiatycze, o 33 wiorsty od Bielska, 947 dziesięcin ziemi włościańskiej (125 łąk i pastw., 32 nieuż.). Obręb leśny skarbowy ma 1594 dzies. lasu".

У восеньскую пару не відаць народу на вуліцы. Вясковыя будынкі нічым асаблівым не вылучаюцца, затое вылучаецца двухпавярховы адносна новы будынак, які выконвае ролю пажарнага дэпо і вясковай святліцы. Побач абшырны, амаль пусты пляц, на акраіне якога асталіся толькі голыя сцены колішняй прыбіральні, якія калісь стаўлялі на акраінах школьных пляцоў. Крышку далей спартыўная пляцоўка з дзвюма парамі футбольных варот...

Спыняюся каля невысокай драўлянай хаткі, завершанай лацінскім крыжам, якая тут выконвае ролю малітоўнага дома. З супрацьлеглага панадворка падыходзіць да брамкі жанчына сярэдніх гадоў і цікавіцца маёй цікавасцю. Завязваецца размова, з якой даведваюся, што на згаданым пляцы стаяў калісь школьны будынак, але з перанясеннем навучання ў гмінныя Дзядковічы школа была знесена. А ў малітоўны дом ад нейкіх дваццаці гадоў кожную нядзелю прыязджае ксёндз, таксама з Дзядковіч. Калі пытаюся, ці ёсць каму карыстацца футбольнай пляцоўкай, жанчына адказвае, што яна яшчэ не завершана, але ў вёсцы шмат моладзі, якая напэўна будзе тым аб'ектам карыстацца. Журобічы адметныя і тым, што там дзейнічае адзіны ў гміне самадзейны вакальны фальклорны калектыў „Каліна". Але тамашняя крама даўно закрыта, а прыступкі да яе развальваюцца і пачынаюць зарастаць зеленню.

Гмінны інфарматар: „W 1921 roku wioska liczyła 88 domów i 438 mieszkańców, wśród nich 148 katolików, 263 prawosławnych i 27 żydów. Prawosławni w większości podali narodowość białoruską (250 osób). Mieszkańcy zajmowali się głównie rolnictwem, pracowali też przy wyrębach okolicznych lasów".

Пасярэдзіне вёскі красуецца жамчужына тамашняй вясковай архітэктуры — царкоўка Архангела Міхаіла, узведзеная ў пачатку XIX стагоддзя. У 2012 годзе была яна адрамантавана: вакол храма пакладзена дарожка з гранітых брускоў для хрэснага ходу, купалы атрымалі пазалоту, заміж бляхі дах быў перакрыты гонтай ды і вонкавая афарбоўка змянілася з шэра-блакітнай на карычневую. Асмелюся меркаваць, што храму быў вернуты яго першапачатковы выгляд. А мяркую гэта па падабенстве сённяшняй журобіцкай царкоўкі да нямногіх колішніх драўляных цэркваў, што захаваліся ў сённяшнім Саколаўскім павеце Мазавецкага ваяводства. Як дакладна выглядала калісь журобіцкая царква, складана меркаваць, бо і яе гісторыя выглядае па-рознаму ў розных крыніцах.

Вікіпедыя пра Жэрчыцкі прыход, у складзе якога цяпер Журобічы: „W 1847 do parafii [Журобіцкай] należało 409 osób. W 1867 znajdujący się w pobliskich Dziadkowicach kościół katolicki zamieniono na filialną świątynię prawosławną (którą, po umieszczeniu ikonostasu, konsekrowano pod wezwaniem Świętej Trójcy). W 1870 utworzono parafię dziadkowicko-żurobicką. Na początku XX w. parafia liczyła około 800 wiernych. Działalność parafii przerwała I wojna światowa i udanie się parafian na bieżeństwo. Po odzyskaniu przez Polskę niepodległości, parafię zlikwidowano, a świątynię dziadkowicką zwrócono w 1919 rzymskokatolikom (obecnie jest to kościół parafialny Świętej Trójcy). Powracająca z bieżeństwa ludność organizowała życie religijne przy cerkwi św. Michała Archanioła w Żurobicach. Po II wojnie światowej, w wyniku przymusowych przesiedleń ludności białoruskiej do ZSRR, liczba prawosławnych w Żurobicach uległa zmniejszeniu". Партал не падае, колькі зараз вернікаў асталося ў былым Журобіцкім прыходзе, аднак пра іх лік можна меркаваць, заглянуўшы на недалёкія могілкі: прыбывае там не больш аднаго пакойніка ў год... Большасць намагільнікаў прысвечана памяці тых нябожчыкаў, што адышлі ў лепшы свет у міжваенны перыяд. Ад боязі *w wyniku przymusowych przesiedleń* не на ўсіх намагільніках ёсць эпітафіі...

Журобіцкія могілкі з'яўляюцца своеасаблівым помнікам падзей XX стагоддзя. Іх запушчанасць з'яўляецца нямым следам знакавых для таго часу таталітарызмаў — не толькі тых праслаўленых вялікіх, але і іхніх маленькіх эпігонаў, якія прымусілі да мабільнасці заселае тут ад вякоў мясцовае насельніцтва. Мінулае стагоддзе гэта не толькі захаванае здаўна качэўніцтва экзатычных нам вандроўных плямён у пошуках паш для сваіх жывёл, гэта не толькі вандроўка навакольных плямён у Новы Свет за эльдараднымі грашыскамі, гэта таксама ўцёкі не толькі тутэйшага насельніцтва ў пошуках умоў для элементарнага выжывання.

З Журобіч кіруюся ў бок Сямятыч. Па дарозе вёска Толвін. Нічога там вартага ўвагі не відаць. Але ў перапісе насельніцтва Мельніцкага павета ад 1662 года між іншых ёсць інфармацыя, што ў Толвіне пражывае „Janowa wdowa z *dziewierzem*, synow dwa, corka, zięć i *zołwica*"; дзевер — гэта мужаў брат, залоўка — мужава сястра. А на сённяшняй мове гэта папросту швагер і швагерка...

Чарговая вёска гэта Бацікі-Дальшыя ці Бацікі-Задняя, як калісь быў назваў гэтую вёску Мікола Гайдук. Пад вяковай ліпай простая драўляная лавачка, ужо заімшэлая ад працяглага некарыстання ёю. А ў мінулым быў гэта мабыць важны аб'ект тамашняга грамадскага жыцця, нешта накшталт святліцы, бо для яе ў пні мажнога дрэва была вычасана спецыяльная выемка для выгады пасядзельнікаў. Крыху далей, на невысокім грудочку, два цэментныя асобна абгароджаныя крыжы, на абодвух падобныя малітоўныя надпісы, толькі пісаныя рознымі алфавітамі, лацінкай і кірыліцай. І за вёскай, каля лесу, два драўляныя крыжы дзвюх мясцовых верніцкіх намінацый.

Крыху далей паяўляецца нешта накшталт трэцяй намінацыі, гэта рачулка *Mahomet*. Чаму акурат гэтая рачулка атрымала імя Прарока — складана меркаваць, бо ж падзеі ў верхніх эшалонах сакральных чыноў напоўнены нечаканымі цудамі. Між іншых, Кусам ібн Аббас (Qasim ibn-Abbas), дваюрадны брат Прарока, пасля смерці Настаўніка быў адправіўся ў 676 годзе ў Самарканд прапаведаваць новую навуку. Але ж там тадышнія язычнікі

працяг ☞11


Малітоўны дом у Журобічах

# Небяспечныя скокі

**Гаворыць, што ў адрозненні ад жыхароў іншых частак Польшчы, сыны і дочкі Беласточчыны ніколі не прыжывуцца і не будуць шчаслівымі на чужыне. Усё-такі і ім хочацца палегчыць свой быт, вывесці родных дзяцей, а часта і бацькоў, у людзі. Праўда, грошы шчасця не даюць, здароўя ці любві за іх не купіш, але без іх ні да доктара не пойдзеш, ні жонкі сабе не падбярэш. За хлебам эміґравалі нашыя дзяды ў пачатках XX стагоддзя, выязджалі і хлебна-палітычныя ўцекачы 1980-х гадоў. Многіх жыццё ганяе туды і цяпер.**



Рышард Гарчак

Рышард Гарчак — сапраўдны шляхціц з пададэльскіх — цяпер падсакольскіх — Гарчакоў ужо амаль трыццаць гадоў пражывае за «вялікай вадой». Цягне яго да сваёй зямлі з моцна і глыбока пампасталымі родавымі каранямі. Пабываўшы час ад часу на падсакольскай малой айчыне, не можа ні ад'есціся любімых варэнікаў з ягадамі ці бульбы, ні нагаварыцца з людзмі на роднай, простай мове.

У час апошняга, сентыментальнага падарожжа на бацькаўшчыну ён распавёў нашым чытачам пра справы, якія турбуюць сэрца эміґранта.

— Спадар Рышард, Гарчакі сталі апошнім часам даволі папулярнымі ў нашам ваяводстве па прычыне кружэлкі з запісам колішніх мясцовых беларускапольскіх песень, выдадзеных аб'яднаннем «Тэрра інкогніта». Раскажыце, калі ласка, пра Ваш славуты радавод.

— Нашы продкі, Гарчакі, перасяліліся сюды ажно з-пад самой Масквы. Маем свой герб «Гурко», якім ганарыцца яшчэ восем іншых родаў. Гарчакоўскія хаты былі адметныя тым, што ніколі не спалучаліся з гаспадарчым будынкам, а дзверы заўсёды адчыняліся на свой панадворак. Мае бацькі і дзяды жылі з гаспадаркі, наймалі парабкаў, якіх з цягам часу і развіццём цывілізацыі станавілася менш і менш. Праўда, з пакалення ў пакаленне перадаваўся запавет падтрымкі цесных шляхецка-шляхецкіх сувязей, але цяпер шляхецка-нешляхецкае сямейства ўжо нікога не здзіўляе. Для прыкладу, дзяды жонкі майго роднага брата наймаліся да працы на загонах маіх дзядоў. Бацькі заўсёды падкрэслівалі польскае, рэлігійнае выхаванне, у касцёл трэба было хадзіць кожную нядзелю. На другім плане стаяла адукацыя. Калі ідзе пра мову, дык да нас звярталіся яны выключна па-польску. У кантактах між сабой ці суседзямі карысталіся таксама беларушчынай. Я сам з ахвотай размаўляю на гэтай мове. Найчасцей удаецца мне гэта ў час сентыментальных вяртанняў на бацькаўшчыну ці проста праз тэлефон з блізкімі, але таксама ў Нью-Йорку з некаторымі кліентамі.

— Што было для Вас штуршком да так станоўчай, жыццёвай перамены, якой з'яўляецца эміґрацыя?

— Да эміґрацыі прымусілі мяне тагачасныя палітычна-эканамічныя абставіны. У Амерыцы мне пашанцавала, добра я там сарганізаваўся. Жыву з таго, што маю. У мяне ёсць рэсурсы, якія даюць працу іншым, а іх праца ўзбагачае мой капітал. Пачынаў я з працы на прадпрыемстве артадаксійнага яўрэя. Пасля чатырох з паловай года супрацоўніцтва абвясціў я яму, што буду займацца тым самым самастойна. Абяцаў купляць у яго тавары і прадаваць па даступных цэнах сацыяльна выключаным палякам і не ведаючым англійскай мовы іншаземцам. Першымі маімі кліентамі былі палякі, потым я звязаўся, між іншым, з беларусамі і ўкраінцамі. На канец я ўвайшоў на іспанскамоўны рынак. Гэтыя этнічныя супольнасці, у сувязі з сацыяльнымі абмежаваннямі, пераплачвалі, а я дапамагаў ім у пераадольванні агульнавядомых першых ста крокаў на чужыне.

— Ці паспяховы, амерыканскі прадпрымальнік знаходзіць час на адпачынак?

— У вольным часе я займаюся, між іншым, практычнай філасофіяй у Нью-Йоркскім філіяле славутай Лонданскай эканамічнай школы. Філасофія — гэта раман з мудрасцю. Вядома, лягчэй быць бедным і разумным, чым разумным і багатым. Матэрыялізм мяняе і губляе чалавечую душу, а я стараюся яе зберагчы. Любоўю да менавіта гэтага абшару навукі заразіў мяне мой настаўнік яшчэ з часоў Супрасльскага сельскагаспадарчага тэхнікума прафесар Васіль Бэндас — абітурыент філасофіі Віленскага ўніверсітэта. Ён першы дапамагаў мне знайсці адказы на нязведаныя чалавечыя думкі.

— Нашыя славутыя землякі, напрыклад, Міцкевіч ці Крашэўскі, будучы на выгнанні, сярод чужой стыхіі, шукалі чагосьці падобнага на сваё, роднае, блізкае. Як гэта Вам даецца?

— Я з'яўляюся членам Польскага біснесова-прафесійнага клуба. У рамках яго дзейнасці мы прысвячаем свой час і фінансы на падтрымку польскай дыяспары ў культурным і сацыяльным планах. Асабіста найбольш канцэнтруюся на працы са звар'яцелымі ад адзіноты. Такі тып вар'яцтва надта распаўсюджаны ў Амерыцы. Найчасцей кранае яно людзей недзе на пятнаццатым годзе іх тулянья па свеце. Яго сімптомы простыя для распазнання. Я шукаю гэтых людзей і стараюся дапамагаць, між іншым, у аднаўленні страчаных імі сувязей з блізкімі ў Польшчы. Таксама падтрымліваю пошукі іх сэнсу жыцця ў месцы актуальнага прабывання, перадусім шляхам узбуджэння пачуцця патрэбнасці іншым. Я здабыў многа ў жыцці, таму і ёсць мне чым падзяліцца.

— Ці магчыма, пасля так доўгай разлукі з бацькаўшчынай, вызначыць свой сапраўдны дом?

— Гавораць, дом там, дзе тваё сэрца. Калі я тут, мне здаецца, што ён там, але калі я там, то думаю, што ён тут. І так ганяюся з аднаго берага на другі. Я зразумеў: хто раз пераскочыў праз вялікую ваду, той ніколі не спазнае свайго месца на зямлі.

— Тады дай Вам Бог здароўе.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Прыгожы гарадскі парк

У акружэнні шырокіх вуліц Паркавай, Белавежскай, Арміі Краёвай і Пілсудскага ў Гайнаўцы знаходзіцца прыгожы гарадскі парк. У ім высокія бярозы і дубы, роўныя асфальтавыя сцежкі, побач іх лавачкі ды прыгожыя лямпы, якія вечарам і ноччу асвятляюць алеі ў парку ды навяваюць настрой. Пасярэдзіне парка б'е фантан.

Сёлета неспадзявана хутка прыйшла восень і амаль усе дрэвы стаяць у пазалоце. Ужо многа каляровага лісця ляжыць пад дрэвамі і на яшчэ зялёнай траве. З дубоў, быццам хрушчы, падаюць жалуды.

Вельмі прыгожа і прыемна было ў парку ў суботу, 5 кастрычніка г.г. У той дзень якраз свяціла яркае і яшчэ цёплае — як на гэтую пару года — сонейка. А паветра было свежае ды такое празрыстае і чыстае-чыстае. На дрэвах ціха шапацела жоўтае і чырвонае сухое лісце. Яно быццам хацела нешта падказаць закаханым парачкам, якія пасля поўдня сядзелі, прытуліўшыся, на лавачках.

Прагульваліся таксама і адзіночныя асобы ды ў вясёлым настроі. Мабыць, узялі яго ад незвычайнай прыгажосці акружэння. Маладых і старэйшых жыхароў Гайнаўкі цягнула сюды быццам магнітам.

Надвор'е стаяла цудоўнае, ласкавае і не было як выседзець дома. Дзеці яшчэ перад поўднем ахвотна забаўляліся ў агародчыку з гайданкамі, драбінкамі і горкамі. Яны вельмі шустрыя. Іх пільнавалі мамы. Пасля вялі дадому і пад дубамі збіралі жалуды. У свае кватэры неслі таксама каляровыя лісточкі. Самыя прыгожыя папоўняць калекцыю.

Улады Гайнаўкі — па ўсім відаць — дбаюць пра гарадскі парк — месца адпачынку для ўсіх. Тут усюды належны парадак. Восеньскі каляровы парк — самае лепшае месца, між іншым, і для сямейных фотаздымкаў на памяць. У сонечны дзень у такой натуральнай прасторы кідаецца ў вочы цудоўная ігра колераў ды святлаценяў! Вось дзе краса!

Восень, каляровая восень ідзе праз парк. **(яц)**

# Паўвека разам

У нядзелю, 22 верасня г.г. у Гайнаўскім доме культуры адбылося ўрачыстае ўручэнне медалёў „За шматгадовае шлюбнае жыццё", прысвоеных парам прэзідэнтам РП. Кіраўнік ЗАГСа Уладзіслаў Ігнацы Віткоўскі запрасіў 23 шлюбныя пары.

На сустрэчу з шаноўнымі юбілярамі прыбылі бурмістр Гайнаўкі Юрый Сірак і войт Гайнаўскай вясковай гміны Вольга Рыгаровіч ды дзеці і ўнукі ўзнагароджаных. Гэтае магічнае святкаванне не кожнаму дадзенае. Пяцьдзесят супольна пражытых гадоў гэта сімвал любві, веры, пашаны, сапраўднай прыязні. Гэта ўзор для маладога пакалення, якое цяпер бярэ шлюб.

Выбраннікам лёсу, якім удалося разам пражыць 50 гадоў, бурмістр зычыў многа шчасця, каб далейшыя чарговыя гады жыцця прайшлі ім у здароўі ды ўдачна. Былі, як заўсёды, букеты кветак ад прадстаўнікоў гарадскіх улад ды ад пляменнікаў і традыцыйны келіх шампанскага.

Медалі і дыпломы атрымалі: Вера і Уладзімір Адамюкі, Аляксандра і Канстанцін Андрасюкі, Надзея і Ян Бачынскія, Галена і Лявонцій Буйноўскія, Крыстына і Максім Ганчарукі, Еўдакія і Уладзімір Янюкі, Валянціна і Рыгор Коты, Яўгенія і Сяргей Леановічы, Марыя і Ян Нестэрукі, Еўдакія і Павел Панасюкі, Надзея і Пётр Паўлоўскія, Яўгенія і Мікалай Пятрочукі, Вера і Антон Плевы, Марыя і Анатоль Пракапюкі і іншыя. Святочны дзень 22 верасня 2013 года будзе для іх незабыўным.

Далейшага моцнага здароўя Вам, юбіляры, зычыць таксама рэдакцыя „Нівы". **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі





# Дубічы ў „Зорцы”

Як рассвятліць шэрыя, восенькія дні? Калі хочацца спаць, спаць, спаць...

А вось — ідэя. Восеньская экскурсія ў Беласток.

1 кастрычніка завіталі да нас госцейкі са школы ў Дубічах-Царкоўных. Вучні з першага, другога і трэцяга класаў. Такое падарожжа, — не абы-што! Са сваёй пушчанскай мясціны ехалі паўтары гадзіны ў адзін бок. Бельскай дарогай, ды яшчэ праз Войшкі па новым асфальце...

Ужо ў пачатку знаёмства мы здзівіліся — сярод школьнікаў пераважалі хлапчукі.

„У другім класе толькі дзве дзяўчынкі — адзначыла спадарыня Міра Семянюк- Мараўская, — а ўсе астатнія — гэта хлопцы”. Таму ў кампаніі і мужчынскія размовы. Хлопцы размаўляюць пра трактары, машыны. У гасцях яны праявілі сябе як дэкламатары. Першы вершык таксама быў пра транспарт (*Ехаў дзедка на кірмаш...* Кандрата Крапівы)...

У час знаёмства з нашай газетай мы гаварылі пра мары дзяцей. І пра тое, што іх мары часта збываюцца ў „Зорцы”. Пасля, калі Артур сказаў вершык пра цукеркі — нешта такое адбылося! На стале сапраўды з'явіліся ласункі!

Праўда, мы гаварылі пра мары, звязаныя з прафесіяй, пра дзяцей, якія пішуць у „Зорку”. Нас прыемна здзівіла, што нашыя госці памяталі вучняў са сваёй школы, якія ў нас друкаваліся: гэта Ірэна Кулік, Агнешка і Анэта Галімскія, Магда Аўксецяюк, Бася Трафімюк...

Сёння ў дубіцкай школе працуе беларускі тэатр для старэйшых вучняў, а малодшыя — амаль сто працэнтаў, рыхтуюцца ўжо да дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова”. Нашы сябры паабяцалі напісаць у „Зорку” вершык пра свае ўражанні ад падарожжа.

А ўражанняў у іх накапілася — хоць адбаўляй. Пасля сустрэчы ў „Зорцы” нашы сябры паехалі ў Радыё Беласток. Якраз там наладзілі адкрытыя дні. Дзеці на свае вочы пабачылі як узнікаюць радыёперадачы і як працуюць журналісты.

ЗОРКА



# Мая беларуская сямейка

Мае бабуля і дзядуля жывуць у Грабаўцы. Разам з імі жыве яшчэ дзядзька Генэк. Яны маюць поле, трымаюць курэй, гусей, індыкоў, свінку. А раней у іх былі карова і дзікі. Бабуля Гэля гатуе вельмі смачныя і здаровыя стравы. Смаката!!! Пыха!!!

Мой дзядзька працуе ў Бельску-Падляшскім, а дзед і бабця — на полі. Яны — земляробы. Яны — беларусы і размаўляюць па-беларуску. Я сама з мяшанай сям'і. У палове я полька, і ў палове беларуска.

**Вераніка Кардзюкевіч,**
*пяты клас НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

# Загадкі з роднай хаткі № 41-13

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 20 кастрычніка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.** Возіць усіх
на сабе і за сабой,
сам жа заўсёды
ідзе пехатой.
(к..ь)

**2.** Ішоў з двара,
бачыў звера:
Шэсць ног,
адзін хвост,
дзве галавы.
(*ч.....к на к..і*)



**Адказ на конкурс-загадку № 38** (касмічная загадка): Сонца і месяц.

# Вершы Віктара Шведа

## У заапарку

У заапарку зноў
Дзеці здзіўляюцца:
— „Карміць тут звяроў
Забараняецца”.

Такая каламуць
У жыцці здараецца.
— Як без яды жывуць
Звярочкі? — усіх пытаюцца.

## Дажыць да анекдота

— Мамачка, мой мёд, —
Кажа Гануля, —
Які ж я анекдот
Сёння пачула!

— Прашу я, раскажы,
Мне дарагая.
— Дык да яго дажыць
Трэба, я ж малая.



# Патрыцыя Карлаў з Пяшчанікаў




На пачатку, ніхто не звяртаў увагі на яе. Патрыцыя сядала сабе ў куточку і самастойна нешта малявала, пісала. Таксама без вялікай ахвоты гуляла з іншымі... Не адзін падумаў — сумуе дзяўчына па маме, па дому!

Дык — не. Калі прыйшоў час падборкі самых цікавых твораў і малюнкаў, Патрыцыя раптам актывізавалася. Як з рукава стала сыпаць ідэямі, падказвала малодшым што, дзе і як...

І гэта не канец.

Яна сама намалявала кранальны і прыгожы комікс паводле фільма Тамары Саланевіч „Ці чуеш як плача зямля”. Напісала таксама вершы ды рэцэнзію на кніжку, якую якраз прачытала і яшчэ захаплялася (друкуем у гэтым нумары). Сваёй актыўнасцю яна, гарадоцкая гімназістка, падарвала і натхніла многіх сяброў!

Патрыцыя Карлаў атрымала індывідуальную ўзнагароду 27 Сустрэч „Зоркі” — „Кнігу стыляў на 2013 год”.

Для ўсіх гэтая загадкавая індывідуалістка была добрай падказкай — не трэба ўсяго рабіць на паказ, пад дыктанд, ці для славы. Усё, што праўдзівае і ўражлівае, выспявае часта непрыкметна.

Мама гімназісткі, якая прыехала на падвядзенне вынікаў нашых журналісцкіх майстар-класаў, вельмі ганарылася таленавітай дачушкай. Мы таксама рады, што таленавітую моладзь напоўніла такая дзяўчына!

ЗОРКА

# Чарадзейныя словы

*Валянціна Асеева*

Маленькі дзядок з доўгай сівой барадой сядзеў на лаўцы і парасонам крэсліў нешта на пяску.

— Пасунься, — сказаў яму Паўлік і прысеў на край.

Дзядок адсунуўся і, зірнуўшы на чырвоны, злосны твар хлопчыка, сказаў:

— З табой штосьці здарылася?

— Ну і хай сабе! А вам якая справа? — скоса паглядзеў на яго Паўлік.

— Мне ніякай. А вось ты толькі што крычаў, плакаў, сварыўся з некім...

— Дзіва што! — злосна буркнуў хлопчык. — Я хутка зусім уцяку з дому.

— Уцячэш?

— Уцяку! Праз адну Ленку ўцяку. — Паўлік сціснуў кулакі. — Я яе толькі што траха не адлупцаваў як след! Ніводнай фарбы не дае! А ў самой колькі!

— Не дае? Ну, праз гэта ўцякаць не варта.

— Не толькі праз гэта. Бабуля за адну моркаўку з кухні мяне прагнала... проста анучай... анучай...

Паўлік засоп ад крыўды.

— Нічога! — сказаў дзядок. — Адзін насварыцца, другі пашкадуе.

— Ніхто мяне не шкадуе! — крыкнуў Паўлік. — Брат на лодцы едзе катацца, а мяне не бярэ. Я яму кажу: вазьмі лепш, усё роўна я ад цябе не адчаплюся, вёслы сцягну, сам у лодку залезу!

Паўлік стукнуў кулаком па лаўцы. І раптам змоўк.

— Што ж не бярэ цябе брат?

— А чаму вы ўсё пытаеце? Дзядок разгладзіў доўгую бараду.

— Я хачу табе дапамагчы. Ёсць такія чарадзейныя словы...

Паўлік разявіў рот.

— Я скажу табе гэтыя словы. Але памятай: гаварыць іх трэба ціхім голасам, гледзячы проста ў вочы таму, з кім гаворыш. Памятай — ціхім голасам, гледзячы проста ў вочы...

— А якія словы?

Дзядок нахіліўся да самага вуха хлопчыка, мяккая барада яго дакранулася да Паўлікавай шчакі. Ён прашаптаў нешта і гучна дадаў:

— Гэта чарадзейныя словы. Але не забудзь, як трэба гаварыць іх.

— Я паспрабую, — усміхнуўся Паўлік, — я зараз жа паспрабую!

Ён ускапіўся і пабег дадому.

Лена сядзела за сталом і малявала. Фарбы — зялёныя, сінія, чырвоныя — ляжалі перад ёю. Убачыўшы Паўліка, яна адразу ж згрэбла іх у кучу і закрыла рукой.

«Падмануў дзед! — з прыкрасцю падумаў хлопчык. — Хіба такая зразумее чарадзейныя словы?..»

Паўлік бокам падышоў да сястры і пацягнуў яе за рукаў. Сястра азірнулася. Тады, гледзячы ёй у вочы, ціхім голасам хлопчык сказаў:

— Лена, дай мне адну фарбу... калі ласка...

Лена шырока расплюшчыла вочы. Пальцы яе разняліся, прымаючы руку са стала, яна збянтэжана прамармытала:

— Як-кую табе?

— Мне сінюю, — нясмела сказаў Паўлік.

Ён узяў фарбу, патрымаў яе ў руках, пахадзіў з ёю па пакоі і аддаў сястры. Яму непатрэбная была фарба.

Ён думаў цяпер толькі пра чарадзейныя словы.

«Пайду да бабулі. Яна якраз абед гатуе. Прагоніць ці не?»

Паўлік адчыніў дзверы на кухню. Бабка здымала з патэльні гарачыя піражкі.

Унук падбег да яе, абедзвюма рукамі павярнуў да сябе чырвоны, маршчыністы твар, зазірнуў у вочы і прашаптаў:

— Дай мне кавалачак піражка... калі ласка...

Бабуля ажно ахнула ад здзіўлення. Чарадзейныя словы так і заззялі ў кожнай маршчынцы, у вачах, ва ўсмешцы.

— Гарачанькага... гарачанькага захацеў, галубок мой! — прыгаворвала яна, выбіраючы самы лепшы, румяны піражок.

Паўлік падскочыў ад радасці і пацалаваў яе ў абедзве шчакі.

«Чарадзей! Чарадзей!» — паўтараў ён сам сабе, успамінаючы дзядка.

За абедам Паўлік сядзеў ціха і лавіў кожнае братава слова. Калі брат сказаў што паедзе катацца на лодцы, Паўлік паклаў руку на яго плячо і ціха папрасіў:

— Вазьмі мяне, калі ласка.

За сталом адразу ўсе змоўклі. Брат узняў бровы і ўсміхнуўся.

— Вазьмі яго, — раптам сказала сястра, — хіба табе цяжка?

— Ну чаму ж не ўзяць? — усміхнулася бабуля. — Вядома, вазьмі.

— Калі ласка, — паўтарыў Паўлік.

Брат гучна засмяяўся, паляпаў хлопчыка па плячы, ускудлаціў яму валасы:

— Эх ты, падарожнік! Ну, добра, збірайся!

«Дапамаглі! Зноў дапамаглі!» — Паўлік выскачыў з-за стала і пабег на вуліцу, але ў скверы ўжо не было дзядулі. Лаўка была пустая і толькі на пяску засталіся накрэсленыя парасонам незразумелыя знакі.

# Ахая — нянавісць паміж дзяўчатамі!

„Ахая” — раман аўтарства Андрэя Зямянскага. Кніжка апавядае пра каралеўства Троі. Ім уладарыць вялікі князь Архептар. У яго дачка Ахая. Маці Ахаі памерла. Бацька ажаніўся з другой, малодшай на год ад свае дачкі. Маладая мачыха не раўнялася прыгожасцю з Ахаяй, за што і зненавідзела падчарку. У той краіне была такая традыцыя, што найстарэйшае дзіця ідзе ў войска. Гэты абавязак выпаў на галаву Ахаі. Мачыха пастаралася, каб дзяўчына трапіла ў палон у каралеўства Луан. Ахаю, хоць яна была прынцэсай Троі, там зневажалі, мучылі...

Хочаце ведаць, якое жыццё Ахаі ў палоне, — прачытайце кнігу!

**Патрыцыя Карлаў,**
*Гімназія ў Гарадку*

# Польска-беларуская крыжаванка № 41




Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 37:

Кот, прас, плыт, парасон, зык, абзац, ты, рад, класік. Сук, кроп, азбука, прыз, рыс, цырк, матор, нагода.

Узнагароды, майкі з беларускімі лагатыпамі, выйгралі **Ева Марчук** і **Матэвуш Кулік.** Віншуем!

# Новыя вершы Юрыя БАЕНЫ


Фота Міры ЛУКШЫ

* * *

Золатам і чырванню
расчыняю дзверы восені.

Рабіну, ясень і клён
бяру ў агнявы палон.

Ад раніцы імглістай
да ночы зарыстай
сцежкі засыпаю лісцем.

Бабінае лета праду
серабрыстай ніткай.

Да вышыні малюся,
да найвышэйшай.

Вырай адкрываю —
вершам.

* * *

Калі збіраюся пісаць,
старанна і доўга
вастру аловак.
Графітнае вастрыё —
пік дасканаласці
і прыгажосці.
Веліч-гара.
Злева і справа —
бездань, імгла.
Неба, унізе зямля.
Сінь і бель.
Зелень і чарната.
Вока ў вока,
твар у твар
стаім без руху —
я і скала.
Цішыня
ўва мне
і ў камені...

Ля грані
нябыту і жыцця,
цемры і святла
малюся Табе,
Магутнае Слова.

* * *

У шкатулцы святла
хаваю пацалункі жыцця.
Як за скарынкай хлеба,
іду за голасам неба.
Зоры іскрацца мне з вышыні.
Пяшчотна шапоча лісце вярбы.
Звініць ручай
напевам серабрыстым.
У сэрцы вясна.
Думкі зялёныя — як трава...

У какафоніі дня
сярод руж і райскіх птахаў
пішу лісты без дат —
вершы на ўсю вечнасць.

## Мой Бельск

У бляску прасвету
ля Замкавай гары
мчацца коні.
Срэбрам-золатам
падзямелле звоніць.

Растае туман.
Уранні з поўдня
далінай-сном
ідзе-плыве
княгіня-рака Белая.

Штодня
золак дванаццаць
адчыняе брам.
Тысячы
палоніць вокнаў...

Дораг мне Бельск.
Мой ён, твой, усіх.
Святое аблічча
Божай Маці над ім.

* * *

Каралева-Маці,
зямная і нябесная,
сінявокая,
яснавалосая
і белакрылая,
абарані мяне,
абнімі,
да сэрца прытулі,
затрымай для сябе —
назаўжды.
Доўгія гады
мне тваёй
не хапала дабрыні,
святла і блакіту.
Таму ўстань,
падыміся з нябыту.
Доўгачаканая,
па слядах
дзядоў і прадзедаў
ты прыйдзі
і вясной аднаві
дарагое аблічча
ўсёй роднай зямлі.

* * *

Думкамі-марамі,
памяццю,
душой і сэрцам
у родную
ўрастаю зямлю.
Усімі карэннямі
нястрымна
ўглыб іду.

Каб сёння,
заўтра
і ў будучыні заўжды
з цуда-крыніцы браць
і праз жыццё несці
жыватворныя
каплі вады —

веры,
надзеі,
любві.

* * *

У сонечнай краіне
перасыпаю сонечны пясок —
з бяскраю ў бяскрай,
з нябыту ў нябыт,
з бяссмерця ў несмяротнасць.

Вочы, ногі і рукі
прывыклі ўжо да пяску.
Залаты дыван
мне хтосьці кладзе
на душу...

У спякоту пустыня
камянямі грукоча,
халоднай ноччу
зубамі скрыгоча...

Каб сніліся сны,
іду на скалісты абрыў.
Там стаю,
стаю і гляджу,
як за сёмым даляглядам
скрозь сінеюць
мае васількі.

* * *

Змалку я, як цень,
з табой іду, народ,
крок у крок.
Басаногая смеласць
дрыжыць на холадзе.
У сэрцы маім неспакой...

Валасы і твар у попеле,
карэнні траў
і лісці.
Надзея зялёных вачэй
белым бінтам закрытая.

Вобмацкам
камяні пераступаю.
Можа словы пачую,
якіх ніхто не заглушыць.
Можа святло праб'ецца,
каб ратаваць душы...

* * *

Ёсць зерне,
якое люты мароз
не замарозіць.
І птах,
які напрадвесні
вернецца.
І віно,
што ў ваду
не пераменіцца.
І паэзія,
якая ў руках
не ўзарвецца.
І патрыятызм,
які, калі трэба,
крывавіць.
І песня,
такая ад краю
да краю.
І любоў,
што не кіне
ў самоты палон.

Ёсць яшчэ Слова святое,
нескаронае, вернае.
Яно як у попеле звон!

## Руіны

Верныя. вечнажывыя.
Яны — вартавыя
старадаўніх светлых крыніц.
І апусцелых дарог, каля якіх ціша
сёння кавыль і палын
калыша,

У сваёй глыбіні каменнай
руіны нема крычаць —
з усіх сіл.

Нябачна.
з зямлі і вады,
з агню і попелу
уздымаюцца муры.
На бой яшчэ адзін,
на святы —

За мёртвых
і за жывых!

* * *

Сваё звычайнае жыццё
мяняю на любоў,
на хлеб, на вершы,
на шчасця
і надзеі песні.

Божа Ўсемагутны,
у акамянелым свеце
не дай мне апынуцца
перад сцяной плачу.

* * *

Патрыётам Малой Айчыны
гімнаў не граюць.
Фанфары звіняць — не ім.
Рукі — не тыя —
найвышэй падымаюць
пераможны сцяг.

Малая Айчына
сама заўжды
выбірае патрыётаў сваіх.
Яны — соль зямлі.
Лёс іхні цвёрды —
як граніт.

* * *

З крыніцы лясной
п'ю вадзіцу-ваду.
Праз калінавы мост
сустракаць іду
зараніцы-зоры.
Па шаўковай траве
басаной бягу.
З кожнай трысцінкай,
пясчынкай,
квецця пылінкай —
жыццю ўсміхаюся...

У руках нясу
надзеі галінку.

## Хлеб

Калі ў руках нясу хлеб,
я лепш разумею сябе.

Дзялюся хлебам —
я лепш разумею жыцця сэнс.

Ем хлеб —
я лепш разумею свет.

Ад зярнят у раллі
да стала —
праменны шлях.

Хлеб, святло, дабрыня...
Святая тайна чалавечнасці —
спадзявацца на хлеб.

* * *

Паэзія,
увесь час за табой
роўным крокам іду —
у адлегласці аднаго
незакончанага верша.

На шляху святла
назад не аглядаюся —
там толькі ціша
і боль забыцца ...

* * *

Жабрак!
Не аднаму паэту —
зусім прыстойны стан.
Не замінае ён,
не прыніжае.

Зялёныя галіны душы.
Слодыч пакут.
Вянец
на галаву
народам ускладзены.

* * *

Нянавісць пустошыць краіны
і людскія сэрцы.

На ўсіх вакзалах свету,
на шляхах,
на марскіх берагах,
на вяршынях,
у далінах
і ў полі
клічу словы
шчырай
чалавечай любові.

А яны адклікаюцца:
— Мы ў няволі!..
— Мы ў няволі!..
— Мы ў няволі!..

## Ружа

Ружа самотная.
Ружа калючая.
Ружа ў агародзе і пры дарозе.
Ружа ўсіх вятроў.
Ружа — ява і сон.
Ружа — радасць і боль.
Ружа чырвоная, як кроў.
Ружа несмяротная.
Ружа — вера, надзея, любоў.
Ружа ад сэрца.
Ружа першая.
Ружа мая і твая.
Ружа — краса,
агняцвет...

Ружа, ратуй свет!

## Пустыня

Прамаці Зямлі,
пакінутая людзьмі,
бяздомная,
уся ў няпэўнасці
і муках,
без вады
і хлеба.

Прастора самоты,
пяску, камення...

Край на каленях —

з магутным,
шырока адкрытым
Небам.

* * *

Любоў і нянавісць —
процілеглыя словы,
Два вобразы свету.

Адно жыццё...

Якое яно?
Як любоў?
Ці як нянавісць?


Фота Міры ЛУКШЫ

# Кацярына СЯНКЕВІЧ

* * *

далікатная, карункавая
згушчанасць пачуццяў
разам з разрывам выклікае крывацёк
турботаў
інсульт смутку інфаркт свету
валіцца на галаву
самы каштоўны напаўняльнік
не запаўняе пустэчы
застаецца тунелем
зжырае радасць ад кішак

* * *

расчараванне анулявала ўсе
магічныя закляцці

мы ўжо не паперкі ад цукерак
з шакаладам на пальцах
слодычы

* * *

рай мараў пабудаваных з перпендыкулярных гарызонтаў
бясконцага неба, бясконцых садоў
якія жылі ў адзін час.
ахінаюць мяне хвалі і прытуляюць дрэвы, сонца казыча шчаку.
вада мае пах язміну.
Я дасюль толькі адна на гэтым малюнку, выліваецца парфума з валасоў.
бачу рэха святла, што кідае чырвань тваёй заходзячай постаці.

* * *

боль можна адчуваць пальцамі прыкладзенымі да гнязда
валасоў
адчувальныя пад пазногцямі тоўстасці пукатых венаў —
аўтастрадаў быцця стомленай душы.
Радасць прыходзіць на час, паміж пакутамі.
Прыходзіць і сыходзіць, незаўважна.

* * *

зачараваныя думкі, якія не існуюць
былі мэтай святла.
свяціліся нават пасля закрыцця павекаў,
паветраныя сукенкі феяў.

* * *

ці пойдзем разам дарогай да столі?
мы будзем шукаць ягад і згубленых лістоў.
знойдзеш маю душу на абочынах.
нашы слёзы будуць пахнуць
і будуць апошнімі.

* * *

Чым ёсць свет пабудаваны на ілюзіях?
наіўным, нудотным вершам можаш плакаць.
Твае слёзы выклічуць вясёлку.

Я хачу ажыццявіць мары чарадзейнай пенкай.
Патрэба новай зямлі, сапраўднага пяску.
Не шукай слёз пакінутых учора.
дадаых да хлеба,
падзеленых на патокі.

* * *

мы нават не выкінуты ў сметнік
у зорках кажуць, што нас не было ніколі
глядзім у люстэрка, каб мімаходам убачыць
што нас, вядома, ніколі не было
запэцканыя ў цесных шафах існавання

* * *

просты прамень сонца, вырысаваны вектарна
матэматычна дасканалыя твары хат
дамыкаючае прастору цёмнае неба
не ад цемры, а ад колераў

* * *

зялёнай травы купіна структура залатога лета

блакітны арнамент васількоў левітуе на фоне неба
не ведаю пра што я мела забыцца ўчора,
п'ючы глыток гарбаты з незабудак.

# Юбілейны букет Надзеі Сахарчук

27 верасня Надзея Сахарчук з Малліннік адзначыла 90-гадовы юбілей. У Арлянскай гміне вядомая яна як пявуння і знаток народнага фальклору. Вядомы музыкант і настаўнік Сцяпан Копа запісаў ад юбіляркі і апрацаваў 102 песні, якія склалі музычны зборнік „Песні Бельскай зямлі. Гміна Орля". Выдала яго ў 2006 годзе таварыства „Музей малой айчыны ў Студзіводах", узначальванае Дарафеем Фіёнікам. Ды не ўсе песні перадала Надзея Сахарчук для запісу. Выявілася гэта ў час сяброўскай сустрэчы пры святочным застоллі, якая адбылася 27 верасня ў вясковай святліцы ў Малінніках...

Ініцыятарам і арганізатарам юбілейнага мерапрыемства быў Сцяпан Копа. З ініцыятывай пазнаёміў ён дырэктарку Гміннага асяродка культуры ў Орлі Анну Несцярук. Кола запрошаных гасцей абмежавалі да блізкіх юбілярцы сяброў. У мерапрыемстве ўдзельнічалі Сцяпан Копа з жонкай Аннай, Анна Несцярук з Альжбетай Назарэвіч (ГАК у Орлі), Анна Кулік (сястра Сцяпана Копы) з мужам Уладзімірам, Дарафей і Анна Фіёнікі ды ніжэйпадпісаны. Паколькі гэта меў быць сюрпрыз для юбіляркі, сустрэчу рашылі арганізаваць у святліцы. Сцяпан Копа патэлефанаваў адно, што прыедзе ў Маліннікі ў пятніцу 27 верасня ў 15 гадзін...

Слязінка ў вачах закруцілася ў юбіляркі, калі ўгледзела ў святліцы багата застаўлены стол са святочным тортам і адмыслова ўпрыгожаным пячэннем у выглядзе грыбочкаў. А тут жа пажаданні з цудоўным букетам кветак і кошыкам поўным падарункаў ад прадстаўнікоў ГАК у Орлі Анны Несцярук і Альжбеты Назарэвіч. Затым памятны здымак... Да кампаніі не хапала спадарства Фіёнікаў. Кола не паспеў напоўніць кілішкі шампанскім, калі з'явіліся доўгачаканыя госці.


Юбілярку віншуюць Дарафей і Анна Фіёнікі


Памятны здымак (злева направа): Альжбета Назарэвіч, дырэктарка ГАК Анна Несцярук, юбілярка Надзея Сахарчук, Анна Копа, Анна Кулік — старэйшая сястра Сцяпана Копы (сядзіць)

— Прыміце ад нас, спадарыня Надзея, гэты букет кветак з самымі лепшымі пажаданнямі, — заявілі. — У 1998 годзе мы прыехалі да вас з просьбай, каб Вы зрабілі каравай. Сёння, пасля 15 гадоў, карыстаемся нагодай спаткацца зноў. Шчаслівым супадзеннем лёсу дажылі таго часу, каб павіншаваць Вас са слаўным юбілеем і ад шчырага сэрца жадаем, каб дачакалі чарговага „круглага"! А да гэтага букета дазвольце, што выканаем Вашу песню „А мой бацька — як цвет".

Застолле праходзіла ў сардэчнай атмасферы. Былі ўспаміны, тосты. Але найбольш было песень — сваіх, тутэйшых. Сапраўдную скарбніцу народнага фальклору адкрыла цётка Надзя. Тады выявілася, што некаторыя песні не змешчаны ў зборніку Сцяпана Копы. Рашыў затым яго папоўніць. Сапраўдны канцэрт зрабіўся, калі кампанія заініцыявала песню „Стоїт гора высокая". Каб заахвоціць усіх да спеву, музыкант уручыў кожнаму ўдзельніку сустрэчы словы, запісаныя на паперы. Асаблівую ўвагу звярнуў Сцяпан Копа на словы апошняй страфы:

*До тэбэ, мылэ льетэнько*
*Нэ вэрнэцця вэсна.*
*А молодосць нэ вэрнэцця —*
*Нэ вэрнэцця вона.*

Былі і іншыя песні, вясёлыя і лірычныя — „Чорны вочка як дэрэнь", „Рабіна". У сольным выкананні пад акампанемент гарманіста цётка Надзя выканала „Арэнбургскі платок". Як спыняўся спеў, дык адзываўся гармонік Копы. У гэтым рамястве, асабліва калі справа тычыцца рэпертуару даўнейшых рускіх лірычных і франтавых песень, няма Сцяпану роўных. І зараз рэзаў „ад вуха да вуха", весяліў кампанію. А мне пасля трохгадзіннага застолля наступіў час развітацца. І хоць ветлівы сябра Сцяпан Копа рэкамендаваў застацца на начлег, я спяшаўся дамоў, бо як кажуць, „свая хатка, быццам родная матка". Затым, развітваючыся з цёткай Надзяй, жадаю ей моцнагамоцнага здароўя і самых сонечных дзён. А за сабою чую ветлівы, быццам мацярынскі, голас: „А не забудзь, Валодзя, прыехаць... Я яшчэ не ўсё расказала... У мяне цікавы аповед пра бежанства!".

На змярканні, карыстаючыся ветлівасцю сябры Валодзі Данілюка і яго сына Гжэся з Маліннік, падаюся поўны ўражанняў дамоў.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**



## http://asablivysviet.org.by

У свеце больш-менш здаровых людзей можна знайсці масу тых, каму цэлы час нешта замінае, штосьці перашкаджае, чагосьці не хапае. І гэта ўсё пры тым, што рукі-ногі ёсць і рухаюцца, галава мысліць, вушы чуюць, вочы бачаць, рот гаворыць. І такі чалавек, які адначасова вельмі шкадуе самога сябе, зусім не задумваецца, што побач з ім жывуць тыя, для якіх розныя звычайныя функцыі цела і мозгу папросту немагчымыя. Гэтых людзей так і называюць — «людзі з абмежаванымі магчымасцямі» альбо інваліды, але часцяком асобам з «неабмежаванымі магчымасцямі» яны могуць параіць як трэба не проста жыць, а штодня радавацца свету, які наўрад ці заўсёды быў для іх ласкавым. А каб бліжэй з імі пазнаёміцца, варта зазірнуць на сайт «Асаблівы свет».

Сайт беларускіх інвалідаў месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.asablivysviet.org.by,** які быў створаны валанцёрамі. Назва сайта аналагічная назве грамадскага аб'яднання інвалідаў, які мае гартуючай ідэяй дапамогу людзям з інваліднасцю ў рэабілітацыі, сацыяльнай адаптацыі і паўнацэннай інтэграцыі ў жыццё грамадства. Пра гэта, прынамсі, распавядаецца ў рубрыцы «Хто мы такія».

У цэлым жа сайт выглядае даволі прывабліва і неяк спакойна. Пэўна, прычынай тут каляровая гама — блакітны і белы колеры, якія пераважаюць у яго інтэрфейсе.

Галоўная старонка сайта нібыта адразу падштурхоўвае да нейкага дзеяння. Пад загалоўкам месцяцца фотаздымкі, якія змяняюцца, а тэксты да іх распавядаюць пра запрашэнне дзяцей-інвалідаў да заняткаў у гуртках малявання і танцаў.

«Наша місія: фарміраванне актыўнай жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі ў людзей з інваліднасцю і членаў іх сем'яў», — так абазначаюць сваю галоўную мэту активісты «Асаблівага свету» ў вышэйзгаданай рубрыцы «Хто мы такія». Пры гэтым яны сцвярджаюць, што дапамагаюць «пераадолець псіхалагічныя і фізічныя бар'еры паміж інваліднасцю і самарэалізацыяй, запатрабаванасцю, поспехам».

«У аснове працы нашага аб'яднання пакладзены ўзаемадапамога і падтрымка. Разам мы абмяркоўваем і вырашаем праблемы, дапамагаем узнавіцца, зноў знайсці сілы і рэалізаваць сябе ў чымсьці новым», — гаворыцца ў тым расповедзе. У арганізацыі ўпэўненыя, што працай, поспехам і перамогамі яны даюць натхненне ды пазітыўны прыклад інвалідам і здаровым людзям.

Пра дзейнасць аб'яднання расказваецца ў рубрыцы «Што мы робім». Там змешчана інфармацыя, аздобленая фотаздымкамі, пра ўжо памянёныя гурткі малявання і танцаў, а таксама пра курсы асобаснага росту, спартовых спаборніцтвах і вандроўках.

Асаблівай увагі вартая старонка «Дасягненні». Там мы можам азнаёміцца з тымі перамогамі, няхай зусім не заўважнымі для большасці людзей, але якія ёсць вельмі важнымі і патрэбнымі для інвалідаў. Напрыклад, той самы танцавальны гурток, што мае назву «Мандарын», неаднаразова станавіўся прызёрам у спартыўных танцах на калясках.

Натуральна, быць інвалідам — гэта цяжкі крыж, але, гледзячы на даны сайт, прыходзіш да нечаканай высновы, што несці яго выпадае вельмі моцным людзям.

Сайт «Асаблівага свету» мае тры моўныя версіі — акрамя беларускай, таксама рускую і англійскую.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

## Вечны вандроўнік

## 125 гадоў з дня нараджэння Язэпа Драздовіча



Язэп Драздовіч, беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, адзін з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу нарадзіўся ў засценку Пунькі (цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці) 13 кастрычніка 1888 года ў сям'і збяднелага арандатара. У два гады застаўся без бацькі. Яго і пяцёра братоў выхоўвала маці Юзэфа. Неўзабаве сям'я засталася без зямлі і дома. У 1908 годзе скончыў школу малявання ў Вільні. Пасля служыў у войску, дзе скончыў фельчарскія курсы. У Першую сусветную вайну быў на Заходнім фронце. Пасля дэмабілізацыі жыў на Дзісеншчыне ў фальварку Лявонаўка каля Германавічаў. Пасля пераехаў у Мінск, дзе ў 1919-1920 гадах быў дэкаратарам «Беларускай хаткі» і Беларускага дзяржаўнага тэатра.

У 1919 годзе арганізаваў культурна-асветніцкае таварыства «Заранка», якое адкрыла школы, аматарскі тэатр, бібліятэку, выкладаў малюнак у беларускай гімназіі і жаночай прагімназіі, супрацоўнічаў з літаратурнымі выдавецтвамі як ілюстратар. Пасля вяртання на Дзісеншчыну, якая паводле Рыжскай дамовы адышла да Польшчы, у 1921-1924 гадах спрабаваў арганізаваць на радзіме беларускія школы. У 1924-1926 гадах выкладаў маляванне ў польскай школе ў Глыбокім, быў актывістам ТБШ. Працаваў у Беларускай гімназіі імя Францішка Скарыны ў Радашковічах. У 1926-1927 гадах супрацоўнічаў з сатырычным часопісам «Маланка». У 1927 годзе заснаваў мастацкую студыю пры Віленскай беларускай гімназіі. Пасля выкладаў маляванне ў Навагрудскай беларускай гімназіі, вёў работу па зборы экспанатаў для Віленскага беларускага музея. У 1931-1939 гадах быў сапраўдным вандроўным мастаком. Фактычна абышоў усю Беларусь пешшу. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР вучыўся на кароткачасовых настаўніцкіх курсах і ў 1940-1941 гадах працаваў настаўнікам малявання і батанікі ў Глыбокім і Лужках.

Кола інтарэсаў Язэпа Драздовіча было надзвычай шырокім: гісторыя, археалогія, этнаграфія, літаратура, астраномія. Ён запісваў фальклор і апрацоўваў для слоўнікаў народную лексіку. Пісаў вершы, прозу, вёў дзённікі. У 1923 годзе ў Вільні была надрукавана першая частка яго аповесці «Вар'ят без вар'яцтва». Большыня яго твораў, у тым ліку паэма «Трызна мінуўшчыны», прысвечаная старажытнай Полаччыне, гістарычная аповесць «Гарадольская пушча», апавяданне «Сон Гараноса» з яго ілюстрацыямі засталіся ў рукапісах. Але галоўным захапленнем было, канешне, выяўленчае мастацтва. Праз яго ён стварыў сапраўдны беларускі космас, цэлую мастацкую філасофію.

Памёр Язэп Драздовіч 15 верасня 1954 года ў бальніцы ў Падсвіллі. У музеі народнай творчасці, што створаны ў мясцовай сярэдняй школе, сабраны яго карціны, дываны, графічныя работы, матэрыялы пра жыццё і творчасць майстра. Пахаваны ён на могілках паміж вёскамі Лiпляны і Малыя Давыдкі. У 1982 годзе на магіле ўстаноўлена стэла з барэльефам «вечнага вандроўніка» аўтарства скульптара Алеся Шатэрніка. На радзіме мастака ў вёсцы Пунькі штогод праводзяцца міжнародныя пленэры яго імя. У Мінску пастаўлены помнік, які выканаў скульптар Ігар Голубеў. Імем Драздовіча названы Музей мастацтва і этнаграфіі ў Германавічах Шаркоўшчынскага раёна.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

4 ☞працяг

## Колішняя і сучасная даўніна

нікі напалі на яго і адсеклі яму галаву. А ён узяў тую сваю галаву пад паху і апусціўся ў адзін з самаркандскіх калодзежаў, дзе спачыў чакаючы Суднага дня.

Матыў святога, нясучага ў сваіх руках сваю адсечаную галаву, звязаны не толькі з далёкім Самаркандам, але і з не надта далёкім крывіцкім Смаленскам. Тамашні летапісец быў запісаў, што мясцовы праведнік Меркурый кінуўся адбіваць горад ад татарскага нашэсця, прагнаў ворагаў ад горада, а пасля перадаў сваё даспехі нейкаму воіну, які адсек Меркурыю галаву. Праведнік узяў сваю адсечаную галаву ў адну руку, а другою прывёў да гарадскіх варот каня і толькі тады аддаў Богу душу. Больш абшырна пра Меркурыя Смаленскага не надта даўно была пісала на гэтых старонках Ганна Кандрацюк. Паколькі такі сюжэт з абезгалоўленым сярэдневяковым змагаром больш абшырны, можна меркаваць, што ў тую эпоху была нейкая асоба, якая наймалася там-сям місіянерам, узыходзячы пасля ў лік святых.

Магчыма таксама, што і ў Магамета біяграфія больш цікавая, што яна не завяршылася пахавінамі ягонага цела ў Медыне ў 632 годзе. Магчыма, што нейкая звышцялесная іпастась Прарока, стаміўшыся засухай пустыннай Аравіі, захацела наталіцца вадзічкай у нашым старонні. Цяперашняе цячэнне рачулкі Магамет даволі нескладанае, прамое, аднак дзенідзе захаваліся яшчэ яе старыя рэчышчы, а з гэтага можна меркаваць, што ў даўні час яе цячэнне мела кшталт арабесак, якія, магчыма, неслі ў сабе нейкі змест, нейкі дапісак да напісанага Прарокам раней. Мясцовыя ж меліяратары перапісалі рачулку на свой лацінска-візантыйскі нескладаны лад і страціла яна сваю місіянерскую поўню, захоўваючы адно чыста фармальнае названне. Да таго ж і вады ў ёй малавата, толькі ў саміх Сямятычах уліваецца яна паўнаводным эстуарыем у тамашні гарадскі вадаём на запруджанай рэчцы Каменнай.

Пра гэтую рачулку быў пісаў у 1970-х гадах Мікола Гайдук у сваім ніўскім „Краязнаўчым слоўніку”. У 52-нумары ад 1976 года рачулка гэтая называецца як трэба — Магамет. Але ўжо два гады пазней, у такім жа 52-м нумары „Нівы”, але за 1978 год, калі Польшча ўсё яшчэ „расла ў сілу”, Магамет „адракаецца” ад сваёй назвы, гэта ўжо „безымянная блакітная рачулка з залатым пясчаным дном”. Такія былі патрабаванні нашых наглядчыкаў да таго апальнага прытока Каменнай, дзе „яшчэ не так даўно бацікоўскія жанчыны, калі на вячэру хацелі пачаставаць сваю сямейку свежай рыбай, бралі сякітакі кашэль, падаваліся на рэчку і як бач прыпол рыбы набіралі, на ракаў нават і глядзець не хацелі. А цяпер не тое, што ні табе рыбкі і ні рака, але нават і жабы перавяліся, а буслы за мышамі па палях, бы каты, ганяюцца”.

Такі быў тады час, цяпер справы крышку памяняліся. І можна нават даць нейкае сучаснае тлумачэнне этымалогіі назваў трох бацікоўскіх вёсак, глянуўшы на іх цяперашні будаўнічы краявід. Бацікі-Бліжшыя, бо здаецца, што яны бліжэй Бруселя, а Дальшыя — далей ад запаветнага сямятыцкага эльдарада...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Масток каля Бацікаў-Сярэдніх

## Запрашэнне

Праваслаўнае брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы запрашае дзяцей у 7-10-гадовым узросце (класы I-IV) да навукі рускай мове. Заняткі будуць праводзіцца ў сядзібе брацтва пры Свята-Троіцкай царкве па вуліцы А. Дзевятоўскага па суботах ад гадзіны 10.30 да 11.15.

Дэталёвую інфармацыю можна атрымаць пад нумарам тэлефона 506 229 375.

(ця)

## XVI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XVI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.** У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.

### *Прынцыпы ўдзельніцтва*

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— **I група:** дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— **II група:** астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у чатырох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і пасланць на адрас: **Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84** з прыпіскай на канверце: XVI Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

### *Тэрміны*

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае **31 кастрычніка 2013 г.** (вырашае дата паштовага штампа).

2. Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў снежні 2013 г.

3. Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.

## 13.10 — 19.10

**(22.03. — 20.04.)** Ад 15.10. будзеш вельмі сабраны, таму на працы ўсё пойдзе прыпяваючы. Час спрыяе новым знаёмствам; шчаслівыя выпадкі. Дома спакойна, нават пры сур'ёзных размовах абыдзецца без скрыгатаў; хаця будзеш упарты, бескампрамісны. З 15.10. больш увагі аддай здароўю, асабліва галаве і вачам. З 18 (да 22.10.) — магчымыя немалыя страты і балючыя расчараванні. Зацьменне Месяца 19.10. прадвяшчае змены, на якія не маеш ахвоты.

**(21.04. — 21.05.)** 15-19.10. — хвіліны з каханай асобай, якія зменяць усё к дабру. Фантастычныя адносіны з людзьмі. Адкрываюцца перад табою новыя магчымасці. Маеш шанц увесці змены з тваіх мараў, толькі не адкладвай! На працы гарачы час і мноства работы. Не бойся новых задач, нават калі яшчэ вучышся новаму.

**(22.05. — 22.06.)** Сэрца не слуга, але не забывайся пра развагу, каб пасля не шкадаваць. 13-14.10. асабліва трымайся правіл, таксама дарожных. Дома могуць паявіцца клопаты і спрэчкі, асабліва дзеці залезуць за скуру. Вельмі пільнуйся з ежай. На працы многа цікавых задум, не чакай пахвал; усё ж бярыся за іх рэалізацыю. Удалыя пакупкі. Не вырашай важных фінансавых спраў, не падпісвай дамоў, не бяры на сябе абавязацельстваў (найлепш увесь месяц). Ад стратэгічных задум абсалютна адмоўся 19.10.

**(23.06. — 23.07.)** 13-14.10. умела наладзіш саюзы і кампрамісы. Знакаміта наладзяцца адносіны з найбліжэйшымі. Будзеш мець павагу і аўтарытэт. Старайся не есці салодкага. Добра распараджайся грашыма. Спрабуй шчасця ў раёнах, якія дагэтуль ты абмінаў. 16.10. прачнецца ў табе голад падарожжаў і прыгод. 19.10. не пазбягай сур'ёзных сустрэч і размоў з блізкімі.

**(24.07. — 23.08.)** Час дзейнасці. Ніхто цябе не спыніць, але мерай сілы на намеры. Многа шчасця, асабліва для самотных. Пасля 15.10. палагаднееш у адносінах да каханай асобы і глянеш збоку на сябе. Не ўблытайся ў праблемы далейшай сям'і. Задбай аб здаровую дыету (слабейшыя ў кастрычніку ў цябе страўнік і пячонка). Засяроджанне на адной мэце прынясе табе відны поспех!

**(24.08. — 23.09.)** Час спрыяе новым мерапрыемствам. Лаві прапановы і нагоды! Маеш шанц пераканаць іншых да тваіх задум. Дзевы без пары возьмуць лёс у свае рукі і не дадуцца знеахвоціцца, калі хтосьці табе спадабаецца — ён твой! Дома не ідэалізуй мінулага ані не выцягвай «трупаў з шафы»; магчымыя гвалтоўныя спрэчкі 19.10. У здароўі лепшыя дні пасля 15.10.

**(24.09. — 23.10.)** 15-19.10. фінансавыя поспехі і ўдачы на працы. Знакаміты час на намячанне сцежак развою. У пачуццях цудоўна. Найлепшыя рандэву ў другой палове месяца. Мноства гасцей. Можаш пахудзець і пазбыцца шкодных звычак. Асцярожна падбірай саюзнікаў. Шалі народжаныя паміж 2 і 6.10. — трымайцеся здалёк ад інтарэсаў. 19.10. не афармляй важных спраў, можа не хапіць табе энергіі і сілы.

**(24.10. — 22.11.)** У пачуццях востра-салодка. Найлепш будзеш адчуваць сябе на ўлонні сям'і. Форма яшчэ ненайлепшая. Фінансавыя ўдачы асабліва ў Скарпіёнаў народжаных пасля 14 лістапада. 15-19.10. добрыя і стабільныя пары яшчэ ўзмоцняцца, а неідэальныя выйдуць на простую дарогу. Можа, адмоўся ад мяса, еж садавіну. 18-19.10. можаш памылкова ацаніць сітуацыю.

**(23.11. — 22.12.)** 15-19.10. акалічнасці прыцягваючыя шчасце. Знакамітая форма і мноства задум. 18-19.10. атакі злосці. Адабрай рэчаіснасць вакол сябе, будзе табе лягчэй. У кар'еры ўраган абавязкаў, але табе навасці нястрашныя, толькі ўсё рабі без лішняй спешкі.

**(23.12. — 20.01.)** Дбай асабліва аб свае ногі. Калі маеш праблемы з жыламі або рэўматызмам, ідзі на рэабілітацыю. На працы абавязкі, паявіцца шанц да наладжання цікавага супрацоўніцтва і рэалізацыі фантастычных праектаў. Не вагайся! 18-20.10. не націскай на іншых.

**(21.01. — 19.02.)** 15-19.10. будзеш дзейнічаць удвая. Паявяцца цікавыя і падмацоўваючыя дух весткі. 13-14.10. пільнуй свайго кашалька. 19.10. магчымыя канфлікты на працы і прыкрыя непаразуменні. Не абяцай наперад. Не страчвай веры ў сябе.

**(20.02. — 21.03.)** У пагоні за ўражаннямі і прыгодамі ў пачуццях можа не ўсё добра канчыцца. Сям'я можа на цябе разлічваць. З 18 (да 22.10) аслабне твая імунная сістэма (дбай аб здароўе), будзеш бездапаможны, разгублены; на вырашай усляпую.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. спецыяльна ўстаноўлены ражым харчавання = 8 _ 17 _ 20 _ 16 _ 19 _;
2. кітайска-казахская рака, што ўліваецца ў возера Балхаш = 3 _ 4 _ 7 _;
3. вялікая якуцкая рака = 18 _ 6 _ 11 _ 5 _;
4. імша = 2 _ 10 _ 15 _ 14 _;
5. італьянскі горад з пахілай вежай = 13 _ 1 _ 9 _ 12 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 |
| | | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 36 нумара**

Пагоня, балада, Парнас, Анатолія, вяз, айсберг, мяса, тэрмас, галера, маіс, алей.

Рашэнне: **На Бога спадзявайся, але і сам старайся**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7.00 – 18.00. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Наш святы пакутнік з Палічнай

— Ці адчуваеце прысутнасць святога Георгія з Палічнай? — пытаем у настаяцеля Паўла Кучынскага. — Ці штось змянілася ў вашай парафіі?

— А ведаеце, ён нам дапамагае, — бацюшка не хавае ўзрушанасці, — і гэта ўсё адбываецца з дня на дзень, на вачах...

Першыя словы датычаць ажыўлення духовасці ў парафіі Вэрсток.

— Яшчэ два гады таму ў нас на Уздзвіжанне, — адзначае бацюшка, — у царкве стаяла пяць чалавек. Год пазней было ўжо паўсотні. А сёння — поўная царква. Сотні народу. Сам мітрапаліт з намі. Ёсць улады, ёсць войска. Нават паломнікі з Бельска на аўтобусе прыехалі...

Айцец Павел выйшаў на дарогу цэлы ў чаканні:

— Я выглядаю яшчэ аднаго госця. Званіў, што ўжо ў дарозе. Да нас едзе бацюшка з Амелянца. Гэта суседняя парафія, яна зараз у Беларусі. Да вайны мы прыналежалі прыходу ў Амелянцы, а вэрстоцкая царква была яе філіялам...



Мітрапаліт Сава

* * *

У Вэрсток, пушчанскую вёсачку ля беларускай мяжы, мы паспелі якраз у момант прывітання першаіерарха. Сустракаць мітрапаліта Саву выйшлі бурмістр Кляшчэль Ірэна Негярэвіч, войт гміны Дубічы-Царкоўныя Лявон Малашэўскі і Юры Карпюк. Сярод палітычнай світы быў Аляксандр Сяліцкі, былы бурмістр Кляшчэль ды рэактываваны нядаўна на пост старасты Гайнаўскага павета Уладзімір Пятрочук (родам з Палічнай, у якой нарадзіўся святы мучанік Юры). Крыху пазней з'явіўся таксама наш звышмабільны ваяводскі радны Мікола Яноўскі...

Дастойны госць прыкмеціў таксама прадстаўнікоў сілавых структур, якіх пабрацку прывітаў:

— Czołem żołnierze!

Пасля мітрапаліта віталі дзяўчаткі з Гайнаўскага белліцэя Дамініка Карпюк і Юліта Карпюк. Разам з імі быў студэнт Беластоцкай палітэхнікі Марк Савеіч з Вілюкоў. Мітрапаліт пахваліў маладых за іх духовую прыгожасць і цёплае прывітанне. Ён таксама пагладзіў па галоўках дзетак, якія віталі яго з белымі гладыёлусамі ў руках.

Ужо на сходах, ля ўваходу ў прытвор, упрыгожанага бярозкамі, яшчэ раз вітаў мітрапаліта царкоўны староста Віктар Патэюк. Ён, насупраць сучаснай модзе і на ўцеху многім, прывітаў госця на мове прыпушчанскіх жыхароў, *па-свойму*.

— Ну, маладзец! — пахваліў і яго мітрапаліт.

Ад пачатку літургіі, якая пачалася ў дзевяць раніцы, уся царква была запоўнена і рассветлена сотняй свечак. Мілагучна і *сладкапеўна* прыпяваў прыхадскі хор, рэактываваны айцом Паўлам. Адразу, пасля абраду аблачэння, мітрапаліт асвяціў новую ікону мучаніка Юрыя з Палічнай, і сам, як першы, да яе прылажыўся.



Ківот з новаю іконай мучаніка Юрыя з Палічнай

Староста Віктар Патэюк





* * *

— А вы адчуваеце прысутнасць святога? — пытаю ў мужыкоў з Палічнай, якія выстойвалі ля царквы і зацята пра нешта спрачаліся.

— *Як тут стоім, то мусіт одчуваем*, — адказвае адзін, — я сам ужо не быў... о-го-го, колькі то часу...

Мой субяседнік пачаў думаць уголас і ніяк не мог прыгадаць....

— *На Вэлікдэнь*, — падкінуў адказ нехта з кампаніі, — як усе...

— А што так далёка ад вашай вёскі ў царкву, ці як?

— *Ны!*

— Дык якая тут прычына?

— Традыцыя такая. У нас, пераважна бабы ў царкву ходзяць, — паяснілі ўрэшце.

Пры нагодзе высветлілася, што частка маіх субяседнікаў завецца так сама як святы — Сцепанюк.

— Скажыце, а як ваш святы прывёў вас сёння ў царкву? — дапытваемся ў Сцепанюка, таго, што першы адазваўся.

— Учора паехаў я сабе ў лес, думаю, грыбоў назбіраю. А тут наш бацюшка ідзе. Ён ўбачыў мяне, уцешыўся і кажа: „Ну, прыходзь заўтра ў царкву. Падтрымай нашае *обшчэство*". То як тут адмовіць духоўнай асобе?

Мой субяседнік першы раз пачуў пра святога два гады таму.

— Я быў на працы, — апавядае Сцепанюк, — а тут падыходзіць калега, дае мне ў рукі газету, і кажа: „Бачыш хто нарадзіўся ў тваёй вёсцы! Ды можа ты сам яшчэ яго сваяк".

— *Ны!* — кажу, і быць такога не можа. Я ж не такі ўжо і маляшчы... Але тры разы прачытаў, аж жэшка ўсярэдзіне зрабілася. Чытаў і не верыў — няўжо гэта ў нашай Палічнай? А пасля дайшлі тут, у сябе, хто і што. У царкве яго сваякі стаяць, — адаслалі мяне мужчыны, — яны ўсё дакладна раскажуць.

* * *

Святы мучанік Георгій з Палічнай (Юры Сцепанюк) быў кананізаваны Рускай Праваслаўнай Царквой у 2000 годзе. Яго свята адзначаюць 9 ліпеня — у дзень яго пакутнай смерці ды ў першую нядзелю пасля 7 лютага, калі Расійская Царква ўспамінае сваіх пакутнікаў і вернікаў XX стагоддзя. Сёння, наш святы зямляк — узор сумленнага і адданага царкве пастыра...

Добры прыклад падзейнічаў таксама ў нашым кутку. Вось, вясной гэтага года ў Вэрсток з'ехалася духавенства, каб паспавядацца...

Нарадзіўся Юры Сцепанюк 6 красавіка 1881 года ў сям'і Марты і Тодара, царскага унтэр-афіцэра ў адстаўцы. Бацькі рашылі ахрысціць яго ўжо на другі дзень. Будучага святога ахрысціў вэрстоцкі настаяцель Антон Беговіч, а яго хросным бацькамі сталі Ганна Сцепанюк з Палічнай і Васіль Шчарбак з Курашава (таго што ля Палічнай).

Лёс будучага святога вызначылі асабістыя трагедыі. Пасля вучобы ён пачаў працаваць настаўнікам у Нагародавічах ля Дзятлава. Яго жонкай была Еўфрасіння Логаш з вёскі Ахнова. Іх сямейнае шчасце пазначыла смерць траіх дзяцей, якія памерлі ў раннім дзяцінстве. Ведзены святым прадчуваннем, Юры Сцепанюк рашыў паступіць у духоўную семінарыю.

— Калі пайду служыць Богу, мае дзеці выжывуць, — меў патлумачыць сваё рашэнне будучы святы. І не памыліўся! Сёння ў Літве жыве яго ўнучка. Яна — жонка духоўнага, матушка Ала Жак. На жаль, яна не прыехала ў Вэрсток, 27 верасня г.г. у свята Уздзвіжання Крыжа Госпаднага, калі асвячалі ікону яе дзеда...

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960